КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 44 (365) ◂ 22 лістапада ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**КУМА ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ**

Стар. 14–15

**СЕРБІЯ — БЕЛАРУСЬ. СВАБОДА СЛОВА**

У Сербіі пасля звяржэння рэжыму Мілошавіча на заканадаўчым узроўні была ліквідавана сістэма дзяржаўных СМІ. Недасяжная пакуль што дэмакратычная мара беларускіх журналістаў

Стар. 5

**ВІЛЬНЮСКІ САМІТ: АД КАГО ЧАКАЦЬ СЕНСАЦЫЙ?**

Лічылася, што на саміце «Усходняга партнёрства», які пройдзе 28–29 лістапада ў Вільнюсе, галоўнай тэмай будзе падпісанне дамовы аб Асацыяцыі ЕС і Украіны. Аднак сенсацый і прарываў трэба чакаць ад іншых краін-удзельніц УП

Стар. 12

**СВЯТЛАНА ВРАНОВА: «КАБ ВЫВУЧЫЦЬ МОВУ, ЧЫТАЮ НА ЁЙ БІБЛІЮ»**

Стар. 15

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**ДА НОВАГА ГОДА ВЫ ЯШЧЭ МОЖАЦЕ ПАДПІСАЦЦА НА «НОВЫ ЧАС» ПА СТАРЫХ КОШТАХ!**

З НАГОДЫ

# ВАЙНА — СПРАВА ДАРАГАЯ

Сяргей ПУЛЬША

**У хуткім часе беларускае войска чакае чарговае «перагрухванне». Прынамсі, пра гэта папярэдзіў Лукашэнка. Беларуская армія можа гэтага не вытрымаць. І наўрад ці гэта вытрымае беларускі бюджэт.**




Наведваючы 61-ю знішчальную авіябазу Ваенна-паветраных сіл і войскаў супрацьпаветранай абароны, кіраўнік дзяржавы пракантраляваў падрыхтоўку дзяжурных самалётаў да вылету. Але пры гэтым, як звычайна, абмеркаваў і папутныя пытанні. Абмяркоўвалася, напрыклад, колькаснае аснашчэнне беларускай арміі: колькі, зыходзячы з сучасных умоў, павінна быць сістэм СПА, бронетэхнікі, самалётаў, верталётаў. «Сёння мы вызначаліся, колькі павінна быць ваенных гарадкоў (сёння іх каля 250), колькі павінна быць такіх баз, як гэтая. Мы ў палявых умовах паспрабавалі кінуць погляд на нашу армію, і якой яна павінна быць заўтра, які кошт пытання», — паведаміў Лукашэнка.

Атрымліваецца, што войска павінна разлічваць на ўласныя сілы. Беларусь можа мадэрнізаваць тэхніку, з гэтым ніхто не спрачаецца. А таму, паводле прэзідэнта, трэба мадэрнізаваць старыя Су–27, якія ўжо гады два як выведзеныя са складу беларускай арміі.

А зараз паглядзім, ці спраўдзіцца мара Аляксандра Рыгоравіча? Шмат хто з аналітыкаў кажа, што не. Таму што гэтага не дазваляюць фінансавыя магчымасці краіны.

Вайна і войска — справа нятанная. Але ў нас зараз нестае грошай на самае неабходнае, не тое, што на войска. Ваенны бюджэт краіны на 2013 год склаў 684,4 мільёна долараў. У такіх прапорцыях Беларусь выдаткоўвае сродкі на сваю нацыянальную абарону апошнія 10 гадоў. Бюджэт арміі не дасягае мільярда долараў, нават нягледзячы на тое, што ў параўнанні з мінулым годам ён вырас на 15%.

На судовую ўладу, праваахоўную дзейнасць і забеспячэнне бяспекі ў бюджэце–2013 было закладзена 1215,9 мільёна долараў. То бок, на міліцыю і суды мы трацім удвая больш, чым на армію.

Між тым, нармальным лічыцца фінансаванне войска ў памеры 2% ад ВУП. Так робіцца ў нашых суседзяў — прынамсі, гэта стандарт NATO, які тычыцца Польшчы, Літвы, Латвіі і Эстоніі. У пакуль не NATOўскай Украіне — таксама 2% ВУП. У Расіі паказчык фінансавання войска ўвогуле вышэйшы — каля 3% ВУП. ВУП Беларусі ў 2012 годзе склаў 63,27 мільярда долараў, то бок на войска ідзе крыху больш 1% ВУП.

Пры гэтым Аляксандр Лукашэнка заўсёды падкрэслівае: калі народ не можа карміць сваё войска, ён будзе карміць чужое. І, як бы паміж справаю, усё думае і думае над працэсамі «аптымізацыі» і скарачэння арміі.

Дарэчы, шмат хто бачыць праблему ў тым, што беларускае войска таксама «падсаджана» на залежнасць ад Расіі. Менавіта ад яе залежыць, даваць ці не даваць нам новую тэхніку, пастаўляць ці не пастаўляць нам тыя ж комплексы супрацьпаветранай абароны. Ужо колькі год беларускія вайскоўцы і сам Лукашэнка персанальна ўпрошваюць нашага бліжэйшага хаўрусніка прадаць нам сучасныя комплексы С–400. Але Расія пакуль пагаджаецца толькі на пастаўку С–300, і тое на «экспартны» варыянт. То бок значна «абрэзаны» ў параўнанні з тым, што знаходзіцца на ўзбраенні ў Расіі.

Але Бог з імі, з грашыма. Калі спатрэбіцца, грошы і на войска знойдуцца. Знаходзім жа мы грошы на новыя рэзідэнцыі, на новыя лядовыя пляцоўкі, на штогадовыя «Дажынкі» і на іншыя нятанныя забаўкі. Значна большую небяспеку для войска ўяўляе маральны стан беларускага грамадства і найперш моладзі, якая павінна ў войску служыць.

Як адзначае генерал Валер Фралоў, сённяшняй моладзі войска проста нецікавае. З-за таго, што кар'еру там робяць не тыя, хто абараняе радзіму, а тыя, хто, па словах кіраўніка дзяржавы, «плявузгае языкамі». «Паглядзіце на набор у Ваенную акадэмію. Конкурс на спецыяльнасць «ідэалагічная праца ў падраздзяленнях Узброеных Сіл» аказаўся сёлета самым высокім — 2,87 чалавека на месца, пры сярэднім конкурсе 1,7. Гэта значыць, будучыя афіцэры ідуць языком балбатаць, а не Радзіму абараняць», — адзначае генерал.

Па падліках ваеннага аналітыка, кіраўніка праекта Belarus Security Blog Андрэя Паротнікава, кадравы некамплект у шэрагу вайсковых частак дасягае 20%. Найбольшую ж трывогу ў яго выклікае тое, што пасля заканчэння пяцігадовага кантракту маладыя афіцэры, ужо здольныя самастойна выконваць пастаўленыя задачы, часцяком сыходзяць з ваеннай службы. Па асобных спецыяльнасцях такіх аказваецца да 25%, а ў некаторых частках — 60%.

Дый палкоўнік Мікалай Петрушэнка, аналізуючы прызыў у войска, адзначыў, што на 1000 прызваных — 250 толькі выяўленых «ухілістаў». Гэта значыць, што кожны чацверты салдат — патэнцыйны дэзерцір.

Так што справа не толькі ў тым, каб закупіць абсталяванне ці мадэрнізаваць ужо існуючую тэхніку. З гэтым мы разбярэмся — добра ці кепска. А вось хто будзе гэтую тэхніку абслугоўваць і на ёй ваяваць? Тыя самыя «ўхілісты»?

І гэтая праблема не вырашаецца ніякімі «агульнавайсковымі» сродкамі. Для таго, каб малады чалавек меў жаданне абараняць сваю Радзіму, трэба перш за ўсё стварыць такія ўмовы, каб яму было што абараняць. Трэба, каб у яго былі тут перспектывы, каб ён, прынамсі, меў планы ў далейшым у гэтай краіне жыць і працаваць. А калі, па падліках сацыёлагаў, 70% беларускай моладзі мараць пра тое, каб пакінуць Беларусь і шукаць шчасця на чужыне — хто ж будзе абараняць такую краіну?

Можна, канешне, у чарговы раз панаракаць, што традыцыйна не справіўся з пастаўленай задачай БРСМ — не забяспечыў патрыятычнае выхаванне моладзі. Але ці толькі ў БРСМ справа?

Патрыятызм залежыць не толькі ад «прамывання мозгу» — гэта ўяўна паказваюць шматлікія прыгожыя і крэатыўныя, але тым не менш не дасягаючыя сваёй мэты рэкламныя ролікі беларускага войска. Патрыятызм залежыць ад таго, наколькі людзям камфортна і перспектыўна жыць у краіне. А камфорт і перспектыўнасць залежаць ад ступені эканамічных і палітычных свабодаў. Вось з гэтым у нас «напружана», а не з колькасцю танкаў і самалётаў.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ОРША. ЗАБАРАНІЛІ ПІКЕТ ЗА РАМОНТ АВАРЫЙНАГА МОСТУ

**Аршанскія актывісты атрымалі адказы на заяўку на правядзенне пікету за рамонт аварыйнага мосту.**

У адказах гаворыцца, што гарвыканкам не дазволіў пікет, бо не была атрымана згода ад міліцыі і паліклінікі на ахову мерапрыемства, а міліцыя і паліклініка не пагадзіліся ахоўваць пікет, бо не быў атрыманы дазвол з гарвыканкаму.

Як адзначыў каардынатар аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» ў Воршы Яўген Анішчанка, які больш за два гады змагаецца за рамонт аварыйнага мосту, ён мае намер падаваць скаргі на забарону пікету ў суд.

Між тым, 5 лістапада старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец заявіў, што напачатку 2014 года мост будзе адрамантаваны. «Так, каштарыс ва ўладаў ёсць, але і рамонт мосту яны абяцаюць правесці ўжо даўно. Мы будзем сачыць, ці будуць улады рамантаваць мост у наступным годзе і як», — паведаміў Яўген Анішчанка.

**Прэсавая служба БХД**

### МАГІЛЁЎ. У АКТЫВІСТА БСДП АДБІРАЮЦЬ ПАКОЙ У ІНТЭРНАЦЕ

**19 лістапада суд Ленінскага раёна Магілёва пастанавіў выселіць сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) Мікалая Залознага з інтэрнату па вуліцы Касманаўтаў, 45 і прадаставіць яму іншае жыллё ў інтэрнаце па вуліцы Залуцкага, 3.**

Акрамя таго, суддзя Юлія Трапыніна вынесла рашэнне аб спагнанні з актывіста на карысць Дзяржаўнага ўнітарнага камунальнага даччынага жыллёва-эксплуатацыйнага прадпрыемства 300 тысяч рублёў у якасці кампенсацыі ёй дзяржпошліны.

Нагодай для перасялення Мікалая Залознага з аднаго інтэрнату ў іншы стаў пазоў яго былога начальніка Паўла Шышова. Спачатку Шышоў за палітычную дзейнасць выжыў Залознага з працы, а затым вырашыў адабраць у яго і пакой, у якім актывіст БСДП пражыў апошнія пяць гадоў.

Залозны працаваў сантэхнікам, і на перыяд яго працы ў інтэрнаце яму выдалі пакой. Падчас апошніх парламенцкіх выбараў ён выявіў, што подпісы ў інтэрнаце за праўладнага кандыдата ў дэпутаты Эдуарда Сянкевіча збіраюць не члены яго ініцыятыўнай групы, пра што заявіў публічна. Пасля гэтага ў актывіста пачаліся праблемы з начальствам. Залозны спрабаваў аднавіцца на працы, а таксама абараніць свой гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю, прайшоў чатыры суды, аднак дабіцца праўды так і не здолеў.

«Я ветэран працы, і мяне, старога чалавека, перасяляюць у іншае месца, у іншы інтэрнат, дзе я буду жыць у пакоі з двума іншымі маладымі людзьмі. Гэта сведчыць пра знявагу старых людзей з боку дзяржавы, бо мне 67 гадоў, і са мной не важна трэба, а праяўляць клопат, бо ўсё сваё жыццё я працаваў сумленна», — кажа Мікалай Залозны.

Праваабаронца Барыс Бухель адзначае, што новы Жыллёвы кодэкс у артыкуле 221 вызначыў пераходныя становішчы, з якімі варта яшчэ дэталёва разбірацца.

«Пакуль не вядома, колькі часу будзе дзейнічаць гэты пераходны перыяд, і пасля яго скончэння ці будзе прад'яўлены чарговы іск Залознаму з нагоды яго высялення без прадастаўлення іншага жылля. Калі яго выселяць без прадастаўлення жылля, то ён застанецца на вуліцы, бо іншага жылля ў актывіста няма. У адпаведнасці з Канстытуцыяй, закон не мае зваротнай сілы, за выключэннем выпадкаў, калі ён змякчае альбо адмяняе адказнасць грамадзян. Як гэтая норма тут будзе вытрымана, пакуль невядома», — гаворыць Барыс Бухель.

**spring96.org**

### СВІСЛАЧ. ЖЫХАРЫ АДСТАЯЛІ СВОЙ СЕЛЬСАВЕТ

**Жыхары Свіслацкага сельсавета Асіповіцкага раёну здолелі адстаяць свой сельсавет, які мясцовыя ўлады збіраліся скасаваць, падзяліўшы яго паміж Ліпенскім і Ясенскім сельсаветамі.**

Жыхары накіравалі ў Асіповіцкі райвыканкам 10 калектыўных зваротаў з прапановай захаваць Свіслацкі сельсавет у якасці адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі. Прычынамі для захавання сельсавета жыхары вылучылі:

1. Няўручнасць альбо адсутнасць транспартных зносін з адміністрацыйнымі цэнтрамі Ліпенскага і Ясенскага сельсаветаў, якое можа прывесці да цяжкасцяў у атрыманні дзяржаўных паслуг, што прадстаўляюцца насельніцтву сельвыканкамамі (6 зваротаў);
2. Багатае гістарычнае мінулае аграгарадка Свіслач (наяўнасць помнікаў археалогіі і архітэктуры рэспубліканскага значэння) і той факт, што населены пункт Свіслач заўсёды быў адміністрацыйным цэнтрам (3 звароты);
3. Наяўнасць на тэрыторыі аграгарадка Свіслач сацыяльнай інфраструктуры (3 звароты).

Разгледзеўшы звароты грамадзян і высновы адмысловай камісіі, Асіповіцкі райвыканкам і раённы савет дэпутатаў палічылі мэтазгодным Свіслацкі сельсавет не скасоўваць. Адпаведную даведку аб выніках высвятлення меркаванняў грамадзян апублікаваў 18 лістапада сайт раённай газеты «Асіповіцкі край».

Супраць скасавання сельсавету падпісаліся 330 чалавек з самой Свіслачы і суседніх вёсак.

**Прэсавая служба БХД**

---

ПАЛІТВЯЗНІ

# БХД ЗАКЛАПАЦІЛАСЯ ПРАВАМІ ЖЫВЁЛАЎ

**Сяргей ПУЛЬША**

**Справы мінскага маньяка — забойцы жывёлаў — ускалыхнулі ўсю краіну. Людзі пішуць заявы ў міліцыю, нехта прапануе ўзнагароду за інфармацыю пра жывадзёра. Аргкамітэт па стварэнні партыі БХД прапануе вырашаць праблему ў комплексе.**

Сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі разам з лідарам маладых хрысціянскіх дэмакратаў Марынай Хоміч на адмысловай прэс-канферэнцыі ў Мінску звыкла асудзілі дзеянні як самога маньяка, так і бяздзейнасць праваахоўных органаў, якія не могуць знайсці злачынцу. Таксама іх абурае і тое, што ў выпадку арышту гэтага злачынцу здолеюць пакараць толькі ў адміністрацыйным парадку, бо ў Беларусі дагэтуль не існуе крымінальнай адказнасці за катаванне жывёл.

«За тую сітуацыю з катаваннем жывёлаў, якая існуе не толькі ў Мінску, але і ў іншых гарадах краіны, персанальную адказнасць нясуць дэпутаты Палаты прадстаўнікоў і Адміністрацыя прэзідэнта, — заўважыў Рымашэўскі. — Бо грамадскія арганізацыі і праваабаронцы ўжо даўно патрабуюць ад уладаў прыняць закон аб абыходжанні з жывёламі. За яго прыняцце падпісаліся больш за 28000 грамадзянаў, і ён, хоць і ў «абрэзаным» выглядзе, але прайшоў першае чытанне ў Палаце прадстаўнікоў у 2011 годзе. У 2012 годзе ён быў адпраўлены ў Адміністрацыю прэзідэнта перад тым, як разглядацца ў другім чытанні, і там быў заблакаваны», — заявіў Рымашэўскі.

Але пытанне мінскага маньяка, лічыць Рымашэўскі, з'яўляецца ўсяго толькі адлюстраваннем таго, што робіць з бяздомнымі жывёламі дзяржава. «Ужо шмат было сігналаў пра тое, што адлоўшчыкі жывёлаў, на вачах у дзяцей, папросту ў дварах дамоў жорстка забіваюць тварынак. У Мінску супрацоўнікі ЖЭСаў замуроўвалі ў падвалах катоў, у Баранавічах перад прыездам прэзідэнта на аэрадроме расстралялі бяздомных сабак. І такіх прыкладаў па ўсёй краіне багата», — адзначыў Рымашэўскі. То бок, па ягоным меркаванні, гэты маньяк не робіць нічога такога, чаго б цалкам легальна не рабіла дзяржава.

Таму БХД і МХД зоймуцца звыклай справай, якая ў іх атрымліваецца лепш за ўсё, — ціскам на ўладу, каб быў найхутчэй прыняты закон аб абыходжанні з жывёламі, які б уводзіў крымінальную адказнасць за катаванне жывёлаў. Ужо створаны адмысловы сайт (nashi-sjabry.org), дзе кожны можа паставіць подпіс пад патрабаваннем прыняць адпаведны закон. «Адрозненне гэтага сайту ад папярэдніх у тым, што тут подпісы «дзейнічаюць». На сайце, напрыклад, change.org можна паставіць подпіс, але ён нікуды не пойдзе. Наш сайт аўтаматычна адсылае кожны подпіс з петыцыяй у адпаведныя дзяржаўныя органы як зварот грамадзяніна, і на гэты зварот чыноўнікі абавязаныя рэагаваць», — падкрэсліла Марына Хоміч. Збор подпісаў за прыняцце закону будзе праводзіцца і «ўручную».

Таксама БХД патрабуе змяніць практыку забойства жывёлаў адпаведнымі дзяржаўнымі службамі, а замест гэтага ўжываць практыку біястэрылізацыі альбо кантрацэпцыі. «Нам кажуць, што гэта дарага, але насамрэч мы трацім значна большыя сродкі на забойства. Таму што папуляцыя бяздомных жывёлаў хутка ўзнаўляецца», — адзначыў Рымашэўскі. Таму адлоў і адстрэл даводзіцца праводзіць раз за разам. А калі жывёліну стэрылізаваць і адпусціць у месца яе пражывання, яна, па-першае, больш не дасць патомства, а па-другое, займе тую тэрыторыю, якую б мог заняць «маладняк».

Больш актыўныя дзеянні БХД і МХД яшчэ абмяркуюць з усімі зацікаўленымі бакамі на наступным тыдні. Але спадзяюцца, што грамадзяне будуць актыўна падпісвацца пад такімі патрабаваннямі ўжо зараз.

---

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# НАЙНОЎШАЯ ГІСТОРЫЯ АЛЯКСАНДРА ТАМКОВІЧА

**Генадзь КЕСНЕР**

**Ужо дваццатую сваю кнігу прэзентаваў увечары 19 лістапада вядомы беларускі журналіст і публіцыст Аляксандр Тамковіч.**



На вечарыну ў сталічную «ГалерэюЎ» прыйшлі дзясяткі людзей — героі юбілейнай кнігі «Найноўшая гісторыя ў асобах» — вядомыя палітыкі, былыя палітзняволеныя, пісьменнікі, мастакі, навукоўцы, а таксама прадстаўнікі замежных пасольстваў, журналісты і простыя грамадзяне.

У перапоўненай зале можна было ўбачыць акадэміка Радзіма Гарэцкага і паэта Генадзя Бураўкіна, мастакоў Аляксея Марачкіна, Алеся Пушкіна і Алеся Шатэрніка, пісьменніка Уладзіміра Арлова, а таксама лідараў многіх дэмакратычных партыяў і арганізацыяў «трэцяга сектара», праваабаронцаў.

Вялі імпрэзу народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка і журналіст Валер Каліноўскі, якія першымі павіншавалі Аляксандра Тамковіча з выхадам новай кнігі, а таксама з нядаўнім юбілеем (9 лістапада яму споўнілася 50 гадоў).

У новым выданні сабраныя палітычныя нарысы пра сто вядомых як у Беларусі, так і за яе межамі асобаў, якія цягам апошніх двух дзесяцігоддзяў мелі наўпростае дачыненне да найноўшай гісторыі нашай краіны. Сам аўтар на пачатку вечарыны зрабіў, так бы мовіць, невялічкую справаздачу. Так, гэта ўжо дваццатая кніжка Аляксандра, усяго ва ўсіх кнігах выкарыстаныя 1148 фотаздымкаў, выданні маюць агулам 3872 старонкі, а іх героямі з'яўляюцца 465 чалавек.

Рэдактарам гэтага выдання быў галоўны рэдактар «Новага часу» Аляксей Кароль, якога сам аўтар назваў ініцыятарам стварэння «гісторыі ў асобах». Дарэчы, па прызнанні Аляксандра Тамковіча, пераважная большасць артыкулаў, якія ўвайшлі ў ягоныя кнігі, раней ужо з'яўляліся на старонках «НЧ», а таксама газеты «Свободные новости Плюс».

Асаблівую падзяку за аказаную інфармацыйную падтрымку пры падрыхтоўцы кнігі аўтар выказаў Міжнароднаму кансорцыюму «ЕўраБеларусь», а за дапамогу архіўнымі матэрыяламі — Незалежнаму інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў.

Сярод тых, хто ў сваіх выступах вельмі станоўча ацаніў тытанічную працу Аляксандра Тамковіча, былі паэт Уладзімір Някляеў і адзін з лідараў беларускай Нацыянальнай платформы Форума грамадзянскай супольнасці Усходняга партнёрства Улад Вялічка, журналіст Аляксандр Уліцёнак і рэжысёр Юры Хашчавацкі, паэт Генадзь Бураўкін і акадэмік Радзім Гарэцкі, пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў, мастак Алесь Шатэрнік, а таксама філосаф Уладзімір Мацкевіч, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, літаратар і выдавец Алесь Усеня. Музычныя віншаванні Аляксандру Тамковічу прэзентавалі бард Эдуард Акулін, паэт Андрэй Хадановіч і палітык Аляксандр Дабравольскі, якія выканалі некалькі песень пад гітару.

Усе жадаючыя змаглі атрымаць амаль сямісотстаронкавую кнігу з аўтографам аўтара. У наступным годзе, па словах Тамковіча, гэтае выданне мае з'явіцца і ў англамоўным варыянце.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# УСІМ УСЁ НАДАКУЧЫЛА…

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Гадамі нашы чыноўнікі размаўлялі пра шматлікія «прарыўныя» праекты і пра шляхі іх вырашэння. Падаецца, што размаўляць ім ужо надакучыла. І таму амаль напрыканцы года некаторыя праекты будуць скасаваныя ўвогуле, а па некаторых прынятыя радыкальныя рашэнні.**




Надакучыла не толькі беларусам. У сераду на прэс-канферэнцыі па выніках саміту прэм'ераў СНД прэм'ер Расіі Дзмітрый Мядзведзеў адзначыў, што Беларусь і Расія паспрабуюць у чарговы раз актывізаваць перамовы па аб'яднанні МАЗа і КамАЗа. Але гэтая спроба будзе, пэўна, апошняй. «Мне здаецца, нам ужо даўно час або гэту дыскусію завяршыць і перайсці да рэальнага аб'яднання, або закрыць гэтую тэму, таму што яна цягнецца даўно», — раздражнёна заявіў Мядзведзеў.

Па ягоных словах, было вырашана «працягнуць канструктыўную працу і паспрабаваць адказаць на гэтыя пытанні ў самым кароткім прамежку часу. І калі гэтага не атрымаецца — будзе сумна», — сказаў на заканчэнне прэм'ер Расіі.

А ўжо нам як будзе сумна, Дзмітрый Анатольевіч! Гэта ж колькі людзей згубяць сваю любімую забаўку! Не будзе пра што пагаварыць прэзідэнтам, не будзе Аляксандр Рыгоравіч шмат разоў вагацца, як і ў якім выглядзе будзе ці не будзе гэтае аб'яднанне, колькі эканамічных і не толькі журналістаў перастануць гадаць, што будзе ў выніку і наколькі гэта зацягнецца, і гэтак далей. Карацей, шмат народу згубіць любімую тэму для абсосвання. Канешне, сумна.

Але мы яшчэ крыху патрымаемся. Прэм'ер Беларусі Міхаіл Мясніковіч растлумачыў, што хаваецца за фразай «самы кароткі прамежак часу»: «Мы мяркуем, і з Дзмітрыем Анатольевічам знайшлі разуменне, што ў снежні гэтага года будзе прымацца рашэнне па сістэме кіравання. Гэта самае было вялікае пытанне. Зараз адпрацаваная дамова, працуюць міжнародныя эксперты па сістэме кіравання гэтым холдынгам, паколькі там плануецца сканцэнтраваць капітал 50 на 50. Я думаю, што гэты праект будзе рэалізаваны», — адзначыў Мясніковіч.

Але Дзмітрый Анатольевіч наўрад ці павёўся на гэтыя словы Міхаіла Уладзіміравіча. Бо Анатольевіч выдатна разумее, хто прымае ў Беларусі такія рашэнні. А Аляксандр Рыгоравіч не так даўно заявіў, што, словамі адной вельмішаноўнай перадачы, «Камамаза не будзе».

Дарэчы, пра перадачы. Урэшце беларускі Мінінфарм скончыў дыскусіі пра тое, хто ёсць сродкам масавай інфармацыі, а хто не. Беларуская ўлады рыхтуюць папраўкі ў закон аб СМІ, якія дазволяць перавесці шэраг беларускіх сайтаў у разрад СМІ з усімі вынікаючымі наступствамі. Як паведаміў намеснік міністра інфармацыі Дзмітрый Шадко, ужо створана працоўная група з прадстаўнікоў зацікаўленых ведамстваў.

«Прапануем унесці шэраг змяненняў у закон аб СМІ, у адпаведнасці з якім найбольш папулярныя і ўплывовыя інтэрнэт-рэсурсы трапяць у разрад СМІ і будуць несці адказнасць перад законам за распаўсюджванне любой інфармацыі — аж да адклікання рэгістрацыі», — заявіў Шадко.

Канешне, пытанне даўно надакучыла, лічыць інтэрнэт сродкам масавай інфармацыі альбо не. Але спадар Шадко, як заўсёды, паставіў воз наперадзе кабылы. Як ён здолее адклікаць рэгістрацыю ў сайта, які яшчэ нават не зарэгістраваўся? Што, ён забярэ ў «Хартыі» дамен org? Гы-гы, тры разы. Так яму і дазволілі запусціць свае рукі ў рэгістрацыю даменаў.

> Мы зацікаўленыя ў тым, каб саміт быў звязаны са станоўчымі эфектамі для Беларусі. Рашэнне ў справе ўзроўню нашага ўдзелу абмяркоўваецца і цягам бліжэйшых дзён будзе аб'яўлена

Ад непаразумення гэта спадар Шадко сказаў і ад злосці. Справа ў тым, што дзяржава так і не здолела перамагчы незалежную інфармацыю. З вуснаў чыноўніка гэта гучыць так, што для арганізацыі ў інтэрнэце эфектыўнага процідзеяння негатыўным сацыяльным з'явам неабходна вырашыць кадравую праблему. «Павінны быць рэдакцыі інтэрнэт-рэсурсаў, якія выверана, з пункту гледжання псіхолагаў, журналістаў, іншых спецыялістаў, будуць гэтую прапаганду весці. Сёння большасць адміністратараў, якія адказваюць за сайты дзяржорганаў, газетныя сайты, такой кваліфікацыі не маюць, каб адэкватна дагрукаць да аўдыторыі», — сказаў намеснік міністра.

Ну, зразумела, што на першым месцы ў намесніка міністра інфармацыі не інфармацыя, а ідэалогія і прапаганда — ведаем, у якой краіне жывем. Але чаму за правалы ў кадравай палітыцы і ідэалагічнай падрыхтоўцы павінны адказваць нейкія сайты сваёй незразумелай нікому рэгістрацыяй? Мо, лепш папрацаваць там у сябе, вызначыць недахопы, ліквідаваць іх і гэтак далей? А так, калі «узяць усё і забараніць», то можна проста адключыць ад інтэрнэту краіну — і не будзе табе ніякіх праблемаў. А то вызначай, хто ўплывовы і папулярны, а хто не. Пакрыўдзяцца ж «непапулярныя».

Таксама ўсім надакучыла пытанне, хто ж паедзе ад Беларусі на саміт краінаў Усходняга партнёрства, які ўжо праз тыдзень адбудзецца ў Вільні. Хто паедзе, той і паедзе, тлумачыць міністр замежных справаў Уладзімір Макей. «Мы зацікаўленыя ва ўдзеле ў саміце і ў тым, каб саміт быў звязаны са станоўчымі эфектамі для Беларусі. Рашэнне ў справе ўзроўню нашага ўдзелу акурат цяпер абмяркоўваецца і цягам бліжэйшых дзён будзе аб'яўлена. Яно залежыць ад рашэння прэзідэнта Беларусі», — сказаў ён польскаму выданню «Dziennik Gazeta Prawna». Сапраўды, чаго туды ехаць, калі там нармальных пытанняў па Беларусі не будзе? Ну, хіба што на шопінг у «Акропаліс». Так што паедзе той, хто мае валюту.

Ну і ўвогуле, надакучылі ўсім мітуслівыя грамадзяне, якія не праяўляюць свядомасць. Напрыклад, намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік у гэтыя складаныя для краіны часы не знайшоў нічога лепшага, як заняцца гандлем алкаголем. Анатоль Тозік лічыць недапушчальным, што ўдзельнікі руху могуць бесперашкодна купіць на заправачнай станцыі спіртное. «Я абсалютна перакананы, што гэта памылка. Трэба прыняць меры па адмене гэтага рашэння, — адзначыў намеснік прэм'ер-міністра. — Буду ўносіць ва ўрад прапанову аб забароне продажу спіртных напояў на заправачных станцыях».

Канешне, няма ў намесніка прэм'ера іншых праблемаў, як алкаголь на запраўках, праўда? Намеснік прэм'ер-міністра — менавіта той узровень для вырашэння такога пытання. І большых праблемаў у краіне няма. Так?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### МІХАІЛ МЯСНІКОВІЧ



Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч у чарговы раз заклікаў улады Грузіі вярнуцца ў СНД. Аб гэтым Міхаіл Мясніковіч заявіў, адкрываючы пасяджэнне Савета кіраўнікоў урадаў краін СНД у Санкт-Пецярбургу ў сераду.

«Беларускі бок выступае за далейшае правядзенне планамернай і эфектыўнай работы па адмене існуючых выключэнняў і абмежаванняў у дамове пра зону свабоднага гандлю і быў бы рады, калі б дакумент падпісалі тыя краіны Садружнасці, якія пакуль не з'яўляюцца яго ўдзельнікамі. Таксама будзем вітаць далучэнне да дамовы і нашых грузінскіх партнёраў, магчымасці для гэтага ёсць», — сказаў Мясніковіч.

Паводле яго слоў, на сустрэчы кіраўнікоў урадаў СНД у вузкім складзе, якая папярэднічала пасяджэнню Савета, быў абмеркаваны шэраг пытанняў па развіцці гэтай дамовы. «Былі канкрэтныя прапановы, і мы знаходзілі варыянты іх рашэння. Гэта сведчыць аб тым, што дамова працуе, што гэта дакумент, які будзе садзейнічаць развіццю нашага ўзаемнага гандлю і гандлёва-эканамічных адносін», — дадаў кіраўнік беларускага ўрада.

Вось толькі ў грузінаў Мясніковіч не запытаўся, ці сапраўды яны жадаюць вяртання ў СНД…

### УЛАДЗІСЛАЎ БАЎМГЕРТНЕР



Шматпакутны топ-менеджар «Уралкалія» ўжо на радзіме. Улады Беларусі ўсё ж прынялі рашэнне аб экстрадыцыі Уладзіслава Баўмгертнера.

У чацвер прадстаўнік Генпракуратуры Беларусі Пётр Кісялёў паведаміў, што Баўмгертнер перададзены Расіі.

Зараз крымінальная справа Уладзіслава Баўмгертнера знаходзіцца ў вытворчасці Галоўнага следчага ўпраўлення СК Расіі. Гендырэктар «Уралкалія» абвінавачваецца ў здзяйсненні злачынстваў, прадугледжаных ч. 3 арт. 33, ч. 2 арт. 201 КК РФ, а менавіта ў тым, што, «з'яўляючыся асобай, якая выконвае кіраўнічыя функцыі ў камерцыйнай арганізацыі, выкарыстаў свае паўнамоцтвы насуперак законным інтарэсам гэтай арганізацыі і ў мэтах здабывання выгод і пераваг для сябе і іншых асоб, што пацягнула цяжкія наступствы».

У кастрычніку ў дачыненні да Баўмгертнера Басманным раённым судом Масквы завочна абраная мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту. 22 кастрычніка ў ходзе двухбаковых кансультацый прадстаўнікам Генпракуратуры Беларусі быў перададзены запыт аб яго выдачы для прыцягнення да крымінальнай адказнасці. Лукашэнка заяўляў, што даўно быў гатовы аддаць Баўмгертнера Расіі пры ўмове кампенсацыі «нанесенай шкоды» ў 100 мільёнаў долараў.

### АНГЕЛА МЕРКЕЛЬ




Канцлер Германіі Ангела Меркель нечакана ўзгадала пра беларускіх палітвязняў. Выступаючы перад членамі Бундэстагу, спадарыня Меркель заявіла, што палітычныя вязні ў Беларусі павінны атрымаць магчымасць свабодна гаварыць і дзейнічаць.

«З часу апошняй хвалі рэпрэсій пасля прэзідэнцкіх выбараў у снежні 2010 года палітычныя зняволеныя па-ранейшаму за кратамі. Грамадзяне, якія змагаліся за плюралізм у сваёй дзяржаве, былі кінутыя ў турму. Я маю на ўвазе, апроч іншага, Алеся Бяляцкага, лаўрэата Еўрапейскай прэміі правоў чалавека. Мы ўсе хочам, каб гэтыя людзі атрымалі магчымасць свабодна гаварыць і дзейнічаць», — заявіла яна.

Гэта даволі нечаканая заява, паколькі, падаецца, ніякіх прычынаў для яе не было. Але ж усцешвае, што канцлер Германіі проста не забываецца на гэтую праблему і згадвае пра яе ў любым зручным выпадку.

▸ ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ

# СТРАЙКУ НЕ БУДЗЕ

Сяргей ПУЛЬША

**Нават калі ў Беларусі адбудзецца ядзерны выбух, першае, што мы пабачым — гэта прадпрымальніка, які вылез з-пад аскепкаў і спытаў: «А што гэта было, і як працаваць далей?»**

Пахваліцца ж Мінгандлю няма чым. Праграма па стварэнні аптовых базаў для прадпрымальнікаў паспяхова правалена. Заканадаўства ў межах Мытнага саюза не ўніфікаванае (з чаго, дарэчы, і пайшлі праблемы прадпрымальнікаў)

Такое ўражанне склалася пасля абмеркавання сённяшняй сітуацыі з прадпрымальніцтвам у Беларусі, што прайшло на пасяджэнні экспертнага клуба Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Самі прадпрымальнікі распавялі, што яны будуць рабіць пасля 1 снежня, — пасля таго, як улады, парушаючы ўласныя дамоўленасці, маюць увесці ў дзеянне сертыфікацыю тавараў лёгкай прамысловасці па тэхрэгламенце Мытнага саюза.

## Прыкрыць тылы

Чаму ўлады адмовіліся ад сваіх дамоўленасцяў? Раней, яшчэ ўлетку, прадпрымальнікі і ўлада дасягнулі кансенсусу: увод тэхрэгламента МС адкладаецца да 1 чэрвеня 2014 года. Але ж нядаўна Пётр Пракаповіч заявіў: сертыфікацыя павінна адбывацца з 1 снежня. І кропка.

Каардынатар кампаніі «За свабоднае развіццё прадпрымальніцтва» Алесь Таўстыка не выключыў у такіх дзеяннях і палітычнага аспекту. «З аднаго боку — гэта спроба паказаць Расіі, што мы нават насуперак уласным інтарэсам працягваем рух па шляху інтэграцыі, і на гэтым руху сутыкаемся з перашкодамі. Але застаемся вернымі хаўруснікамі і прыхільнікамі інтэграцыйных працэсаў. А з іншага боку — нядаўна нават прэм'ер Міхаіл Мясніковіч выказаў думку, што пакуль Беларусь атрымлівае ад Мытнага саюза больш шкоды, чым карысці. Магчыма, такімі дзеяннямі ўлада падштурхоўвае «тарпедаванне» саміх ідэяў Мытнага саюза і ў перспектыве Еўразійскага саюза. Самі ўлады народ на плошчы не выведуць — працоўныя з прадпрыемстваў туды проста не пойдуць. Таму вырашылі падштурхнуць прадпрымальнікаў выйсці на плошчу з лозунгамі пра тое, што Мытны саюз нам не патрэбны», — мяркуе Таўстыка.

«Напрыканцы года, як вядома, кожнае міністэрства і ведамства павінна даць справаздачу аб дзейнасці за год. Гэта павінна зрабіць і Міністэрства гандлю. Ад гэтага залежыць, якое фінансаванне гэтае міністэрства атрымае на наступны год, ці будзе яно ні зараз. Адпаведна, нават органы Мытнага саюза прымаюць рашэнне, што сертыфікацыя абавязковая толькі для вытворцаў і буйных аптавікоў, а не для ІП, а беларуская ўлада вырашае ўсё пасвойму. На рынках той жа Расіі, напрыклад, немагчыма ўзяць сертыфікаты Мытнага саюза — там іх не мае амаль ніхто.

Зараз Мінгандаль такім чынам перакладае адказнасць за хібы ў «аптымізавана». Дарэчы, нават прэзідэнт казаў, што задумваўся над патрэбнасцю яго існавання. Падчас скарачэння дзяржаўнага апарата гэтае пытанне няпростае», — лічыць прадпрымальнік Мікалай Рамашын.

Пахваліцца ж Мінгандлю няма чым. Праграма па стварэнні аптовых базаў для прадпрымальнікаў паспяхова правалена. Заканадаўства ў межах Мытнага саюза не ўніфікаванае (з чаго, дарэчы, і пайшлі праблемы прадпрымальнікаў). З праграмамі разгрузкі складоў і рэалізацыі беларускай прадукцыі — поўны швах. І хаця б частку сваіх праблемаў чыноўнікі вырашылі перакласці на чужыя плечы.

## Для каго адтэрміноўка?

На думку прадпрымальнікаў, раптоўны канец адтэрміноўкі па сертыфікацыі выкліканы тым, што чыноўнікі распісваюцца ва ўласнай некампетэнтнасці.

«Трэба разумець, што гэта не для прадпрымальнікаў адтэрміноўка, а для чыноўнікаў. Адтэрміноўка даецца для таго, каб, калі ўжо на самым высокім узроўні мы падпісалі пагадненне пра Мытны саюз, то трэба прывесці заканадаўчую базу да адзіных прынцыпаў у адпаведнасці з патрабаваннямі Мытнага саюза. Для таго і даецца адтэрміноўка», — заўважыў Рамашын.

Але гэтага зроблена не было ні падчас першай адтэрміноўкі, сваёй заканадаўчай дзейнасці на прадпрымальнікаў.

І не толькі ў заканадаўчай. Эканаміст Леў Марголін працытаваў пратакол па выніках нарады ўрада па гэтым пытанні, падпісаны Пракаповічам. З яго вынікае, што прадпрымальнікі, нібыта, так і не зразумелі, чаго ад іх хочуць. А таму прапануецца узмацніць тлумачальную работу, а таксама Мінгандлю прыняць захады па наўпроставых пастаўках у Беларусь тавараў, а самае цікавае — прыняць захады па рэалізацыі прадпрымальнікамі тавараў айчыннай вытворчасці.

То бок, прадпрымальнікаў будуць абавязваць «разгружаць склады». І нікога не цікавіць, што на рынкі людзі ідуць за той прадукцыяй, якую не здолелі набыць у крамах.

## Карупцыя

Што ж тычыцца самой сертыфікацыі, то, на думку Мікалая Рамашына, не ў малой ступені тут задзейнічаны і карупцыйны складнік.

«Памятаеце, ускладняліся санітарныя патрабаванні? А абавязковы ўвод касавых апаратаў, калі раптам узнікалі фірмы, якія бралі па 10–20 долараў за штомесячнае абслугоўванне тэхнікі, нібыта, на яе гарантыі не існавалі? Зараз — тое ж самае. У інтэрнэце ўжо з'явіліся аб'явы для прадпрымальнікаў кшталту: «Дапамагу з хуткай сертыфікацыяй», і гэтак далей. Я не выключаю, што гэтую дапамогу аказваюць блізкія да чыноўніцтва людзі, якія такім чынам вырашылі падзарабіць», — лічыць Рамашын.

Ужо былі выпадкі, калі нібыта «сертыфікаваныя» тавары не адпавядалі ніякім стандартам якасці. Такім чынам, сертыфікацыя можа ператварыцца ў яшчэ адну карупцыйную «кармушку» для чыноўніцтва і блізкіх да іх людзей.

## Будзем працаваць

Аднагалосна прадпрымальнікі выказаліся ў тым рэчышчы, што пасля 1 снежня рынкі не зачыняцца. Прадпрымальнікі сваю працу прадоўжаць — насуперак усім намаганням улады. І працаваць яны нават будуць больш-менш легальна.

«Па-першае, пакуль яшчэ няма дакумента пра тое, што з 1 снежня ўсе прадпрымальнікі, якія гандлююць таварамі лёгкай прамысловасці, павінны мець сертыфікаты на сваю прадукцыю, — адзначыла прадстаўнік арггрупы па стварэнні прадпрымальніцкага прафсаюза «Разам» Ірына Яскевіч. — Нават калі такі дакумент з'явіцца, то існуюць і іншыя акты, і ўказ прэзідэнта пра адтэрміноўку да 1 чэрвеня 2014 года».

Па-другое, ніхто не забараняе без сертыфікацыі гандляваць «рэштай тавару». Па словах Яскевіч, прадпрымальнікі самі праводзяць інвентарызацыю, самі вызначаюць колькасць рэшты, а ва ўлады не існуе пакуль органа, які б гэтую «рэшту» кантраляваў. Тым больш, што менавіта ўлады прынялі рашэнне адмяніць для ІП кнігу ўліку руху тавараў. Да таго ж, «рэштай» могуць быць і тавары, якія на рынку не прысутнічаюць, — прыкладам, летняя калекцыя абутку і адзення. «Ёсць таксама і рашэнне Дзяржстандарту пра тое, што можна гандляваць «рэштай» да тае пары, пакуль не скончыцца тэрмін прыдатнасці, а некаторыя тавары ўвогуле такога тэрміну не маюць», — адзначае Яскевіч.

## Апошні аргумент

А калі ўсё ж нейкія чыноўнікі пачнуць патрабаваць сертыфікаты Мытнага саюза з 1 снежня, то ў прадпрымальнікаў ёсць не толькі права на страйк. Па словах той жа Яскевіч, шмат хто з такіх людзей па некалькі год не меў вызначанага Працоўным кодэксам адпачынку. «Таму мы не будзем пужаць улады рэвалюцыяй, пратэстамі і гэтак далей. Мы проста сыдзем у адпачынак на месяц, на два. Зоймемся сям'ёй, дзецьмі. А там хай чыноўнікі самі паглядзяць, хто каму больш патрэбны, ці сапраўды мы так мала падаткаў плацім, як ім здаецца, і што будзе з беларускім бюджэтам за гэты час», — патлумачыла Яскевіч.

Сапраўды, цікава, як будзе пачуваць сябе бюджэт, калі хаця б палова прадпрымальнікаў хаця б два месяцы не заплаціць падаткі.



▸ ЛІЧБЫ

# ПА-НАД ПРОРВАЙ

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**У перабудовачныя часы, калі дазволілі палітычныя анекдоты, шмат хто смяяўся над адной фразай з дакладу: «Эканоміка Захаду знаходзіцца па-над прорвай, у той час, як мы зрабілі магутны крок наперад».**

Падаецца, такі крок, нягледзячы на самую аптымістычную статыстыку, ужо зрабіла Беларусь. Згодна з афіцыйнымі дадзенымі, рост ВУП Беларусі па выніках студзеня — кастрычніка 2013 года застаўся на ўзроўні 1,1%. У грашовым выражэнні ВУП за 10 месяцаў склаў 505,9 трыльёна рублёў.

Варта зазначыць, што ВУП не расце ўжо два месяцы. «Спыненне» росту ВУП афіцыйныя крыніцы падаюць як прыкмету стабілізацыі эканомікі. Але наўрад ці так ёсць. Варта адзначыць, што ВУП не падае ўніз толькі дзякуючы «разгону» інфляцыі. Інфляцыя ў жніўні складала 0,1%, у верасні — 1,7% і ў кастрычніку — 1,9%.

То бок, калі б не павышэнне кошту створанай прадукцыі (у выглядзе інфляцыі), то ВУП скаціўся б уніз. А гэта значыць, што эканоміка Беларусі знаходзіцца ў рэцэсіі.

І прагнозы не радуюць. На гэтым тыдні эксперты Сусветнага банка на прэс-канферэнцыі, якая прайшла ў Мінску, агучылі: беларускай эканоміцы пагражае двухгадовая стагнацыя.

Прадстаўляючы выкананы гэтай арганізацыяй гадавы агляд эканомікі Беларусі, старшы эканаміст Сусветнага банка Себасцьян Экардт заявіў, што ў 2013 годзе рост рэальнага ВУП Беларусі замарудзіцца да 1%. Гэта з'яўляецца адлюстраваннем сітуацыі на знешніх рынках і стрымліванне ўнутранага попыту для захавання макраэканамічнай стабільнасці.

Эксперт лічыць, што ў святле паляпшэння сітуацыі на сусветных рынках у 2014 годзе беларуская эканоміка нязначна паскорыцца да 1,5%. «У 2015 годзе, у год прэзідэнцкіх выбараў, макраэканамічная палітыка будзе стымуляваць рост», — прагназуе Экардт. Паводле ацэнкі Сусветнага банка, прырост ВУП Беларусі можа скласці 2%. Аднак пры гэтым дысбалансы ў эканоміцы захаваюцца, лічаць эксперты.

Па прагнозах спецыялістаў Сусветнага банка, інфляцыя ў бягучым годзе ў Беларусі складзе 15% пры прагнозным паказчыку ў 12%. Прычына — рост тарыфаў на камунальныя паслугі і абясцэньванне рубля.

Эксперты прагназуюць і павелічэнне дэфіцыту рахунку бягучых аперацый да 8,9 працэнта ВУП у 2013 годзе. Кажучы простай мовай, мы на 8,9% ВУП закупім імпарту за мяжой больш, чым атрымаем грошай ад экспарту. А калі ў нас дэфіцыт рахунку, то грошы трэба недзе ўзяць. Эксперты Сусветнага банка прагназуюць, што валавыя патрэбы беларускай эканомікі ў знешнім фінансаванні ўзрастуць да 8 мільярдаў долараў. Слабыя паказчыкі эканамічнай дзейнасці будуць аказваць негатыўны ўплыў на даходы бюджэту. А таму чакаецца бюджэтны дэфіцыт.

На думку міжнародных экспертаў, выратаваць Беларусь могуць толькі структурныя рэформы і пісьменная макраэканамічная палітыка. Інакш мы скоцімся ў крызіс. Але ці здольныя ўлады на такую палітыку?

ПАРАЛЕЛІ

# СЕРБІЯ — БЕЛАРУСЬ. СВАБОДА СЛОВА

Аляксей КАРОЛЬ

**У Сербіі пасля звяржэння рэжыму Мілошавіча на заканадаўчым узроўні была ліквідавана сістэма дзяржаўных СМІ. Недасяжная пакуль што дэмакратычная мара беларускіх журналістаў. Але, расчаравалі мяне сербскія калегі, пры фармальнай свабодзе, болей за 80 працэнтаў СМІ засталіся пад поўным кантролем уладаў. Праз іншыя механізмы, іншымі метадамі.**



У Бялградзе з XIX стагоддзя захавалася вуліца рэстаранаў. Рэстаран «Тры капелюшы» — любімае месца Ёсіпа Броз Ціта, у які ён прыводзіў замежных гасцей



Надзея Гачэ, галоўны рэдактар часопіса «Novi Magazin»

Сітуацыю са СМІ ў часы Мілошавіча лёгка ўявіць, бо гэта наша сённяшня рэальнасць. Мілошавіч жорстка кантраляваў цэнтральныя СМІ, за рэгіянальнымі дагляд быў слабейшы. І яшчэ адна цікавая рыска да партрэтаў, як іх ахрысцілі калісьці заходнія журналісты, «двух апошніх дыктатараў у Еўропе»: Мілошавіч дазваляў карыкатуры на сябе, у нас за такое — пад суд «за паклёп» ды «за абразу гонару і годнасці».

## Пад пераследам

Таталітарны стандарт палітыкі ў адносінах да свабоды слова — поўная забарона, вынішчэнне пад нож незалежных СМІ. Да гэтага імкнуліся і рэжым Мілошавіча, і рэжым Лукашэнкі. Але абодва былі вымушана адступіцца: не тое грамадства, не той час, не тая міжнародная сітуацыя, уплыў новых тэхналогій. Сваёй тактыкай яны абралі максімальна магчымае абмежаванне незалежных СМІ — па колькасці, тыражу, зместу, каналах распаўсюду. Метадамі эканамічнага і палітычнага ціску.

Да пэўнага часу гэта тактыка мела эфект у Сербіі і пакуль што спрацоўвае ў Беларусі. Мяняецца толькі набор метадаў і сродкаў. У Беларусі мы зараз наглядаем змену асноўнага вектара пераследу — са сталіцы на рэгіёны, з прыцэльных удараў па знакавых фігурах на масавыя затрыманні журналістаў пачас акцый апазіцыі. Замест судовых працэсаў з пагрозай працяглага зняволення (як гэта было ў адносінах да Андрэя Пачобута) — штрафы ці «суткі» ў ізалятарах часовага ўтрымання. Разлік уладаў пры гэтым просты: грамадскі рэзананс, асабліва міжнародны, меншы, а эфект застрашвання — той жа.

## На пераходзе

Паводле меркавання сербскіх калегаў, з якімі я сустракаўся ў Бялградзе, незалежным СМІ належыць значная роля ў агульнай перамозе над рэжымам Мілошавіча. Але менавіта партыі, якія абяцалі поўную свабоду слова, па сутнасці адразу ж пасля падзення рэжыму сталі ствараць новую сістэму кантролю над СМІ.

«Пасля Мілошавіча, — распавяла Наталля Братулевіч, — дзяржаўная сістэма медыя распалася на шэсць рэспублік былой Югаславіі. І іх галоўнай тэмай стала прапаганда вайны. У Сербіі, хаця законы і памяняліся, але ў наўпроставым значэнні сапраўдных публічных СМІ, з крытыкай і аналізам, здольных выконваць асветніцкую ролю для народа, у належным маштабе не ўзнікла. З другога боку, грамадства таксама не ведала, якім павінна быць незалежнае выданне. І да сённяшняга дня распаўсюджаным з'яўляецца меркаванне, што роля таго ці іншага СМІ — гэта работа на тую ці іншую палітычную партыю».

Праблему Наталля бачыць у тым, каб растлумачыць людзям сапраўдную ролю традыцыйных і электронных СМІ ў грамадстве. «Гэта, — разважае яна, — як пачатковая школа. Другі ўзровень — даследчая праца: з дакладнасцю выявіць, якімі спосабамі і сродкамі ўлады дамагаюцца кантролю і маніпуліравання свабодай слова, каб кардынальна змяніць сітуацыю».

## Новая сістэма

Пра новую сістэму СМІ, што склалася ў Сербіі за 13 гадоў пасля падзення рэжыму Мілошавіча, мы размаўлялі з Вукашынам Абрадавічам, прэзідэнтам Незалежнай асацыяцыі журналістаў Сербіі (IJAS) і адначасова галоўным рэдактарам рэгіянальнай незалежнай газеты «Враньске навіны».

У Сербіі, як і ў нас, таксама два саюза журналістаў. Але сербская асацыяцыя незалежных журналістаў стваралася не з нуля, як Беларуская асацыяцыя журналістаў.

Мы гутарылі са спадаром Вукашынам у яго кабінеце, на паверсе, які цалкам належыць яго саюзу. Гэты паверх, патлумачыў ён, асацыяцыя атрымала па рашэнні суда, пасля таго, як яны выйшлі з агульнага саюза журналістаў. Па справядлівасці, на яго меркаванне, ім мусіла адыйсці палова маёмасці і палова агульнага будынку.



Вукашын Абрадавіч, прэзідэнт Незалежнай асацыяцыі журналістаў Сербіі



Іван Цвеіч, галоўны рэдактар незалежнага агенцтва навін «Beta»і Наталля Братулевіч, менеджар арганізацыі «Абаронцы правоў чалавека»

Справа ў тым, што ад XIX стагоддзя ў Сербіі існаваў адзін саюз журналістаў. Але ў 1994 годзе вялікая група менавіта незалежных журналістаў вырашыла аддзяліцца і аб'яднацца ў сваю асацыяцыю. Па прычыне нязгоды з той палітыкай падтрымкі рэжыму, прапаганды ідэалогіі вайны, якую праводзіў стары саюз.

«Мы думалі, — з доляй горычы ўзгадвае мінулае спадар Абрадавіч, — што свабода слова прыйдзе сама сабой. Нашай вялікай памылкай было, што мы тады не зразумелі галоўнае: барацьба за свабоду слова павінна пачынацца па новай у той жа момант, як сышоў дыктатар». І, уздыхнуўшы, дадаў: «Атрымалася ж, што партыі ва ўладзе мяняліся, але нязменным заставаўся механізм кантролю, што сфармаваўся ў тым ліку і іх высілкамі».

Па сутнасці, механізм гэты не новы, у розных варыяцыях, розных памерах уласцівы многім краінам. Вось як, у агульных рысах, выглядае яго сербская мадыфікацыя.

## Механізм кантролю

Паводле закону, любы жадаючы можа без перашкод адкрыць новае СМІ. Да таго ж закон не патрабуе называць імя ўладальніка.

Здавалася б, ну проста супердэмакратычная норма. На справе ж аказалася гіганцкім падвохам, шчылінай для ўскоснага, але вельмі эфектыўнага кантролю за сродкамі інфармацыі. Найперш з боку дзяржавы і алігархаў — сапраўдных патаемных фінансістаў таго ці іншага выдання. Пры змене ўлады ўсе перамены зводзяцца да перадзелу сфер уплыву. Зноў жа пад коўдрай, праз інтрыгі і судовыя працэсы, пад прыкрыццём барацьбы з карупцыяй.

Па прычыне таемнасці схем уплыву на сродкі масавай інфармацыі, ніхто з маіх суразмоўцаў не змог назваць дакладную лічбу як незалежных, так і залежных СМІ. Але перавага, на жаль, на баку залежных. Прычым, самыя масавыя СМІ — агенцтва навін «Танюг» і газета «Палітыка» — у адкрытую, праз бюджэт, што ёсць парушэннем закону, фінансуюцца ўрадам. Адпаведна, на 100 і 51 працэнт. Для «Танюг» гэта 2 мільёны еўра ў год, удакладніў галоўны рэдактар прыватнага незалежнага агенцтва навін «Beta» Іван Цвеіч.

Па інфармацыі Вукасіна Абрадавіча, увесь рынак СМІ ў Сербіі складае прыкладна 170 мільёнаў еўра. Столькі ўкладаецца ў маркетынг — урадам, маркетынгавымі агенцтвамі (блізкімі да ўрада), алігархамі. Астатнія крошкі дастаюцца незалежным СМІ. Дзяржава на рынку маркетынгу займае больш за 40 працэнтаў. Гэта не дазволена, але гэта — ёсць. «Нашы патрабаванні, — падкрэсліў ён, — па-першае, адкрытасць інфармацыі — хто, каму і колькі, падругое — дзяржава павінна сысці з рынку маркетынгу СМІ».

У выніку такой арганізацыі прасторы СМІ, па ацэнках прэзідэнта Незалежнай асацыяцыі журналістаў Сербіі, тут пануюць выданні, якія ў журналісцкім асяроддзі атрымалі назву «палітычнай жоўтай прэсы» — наўпрост залежнай ад партый, уладаў, алігархаў. Іх функцыя — прапаганда, а не якасная журналістыка.

## Новыя незалежныя

І ўсё ж сегмент сапраўды незалежных СМІ ў Сербіі непараўнальна большы і ўплывовы, чым у Беларусі. З несумненнымі лідарамі гэтага сегмента я і меў якраз сустрэчы ў Бялградзе. Коратка ахарактарызую.

«Штотыднёвік «Novi magazin» — не масавая газета, — падкрэсліла галоўны рэдактар Надзея Гачэ. — Газета для тых, хто любіць думаць сваёй галавой, хто мае сваё меркаванне». Выданне заснавана групай журналістаў у 2007 годзе. Канцэпцыя «Novi magazin» роднасная канцэпцыі «Новага часу». Але ж фармат выдання для нас пакуль недасяжны — у выглядзе часопісу, на цудоўнай паперы, каляровы друк. Там ёсць, якім бы ён не быў, рынак СМІ. І знайшліся пяць бізнэс-структур, што даюць газеце рэкламу. І кошт паперы і друку таннейшы, чым у нас.

«Песчанік» — праграма, сайт і выдавецтва. Іх прадукт масавы і папулярны. Іх праграму бяруць 11 радыёстанцый у Сербіі, а таксама ў Косава і Чарнагорыі. Аўдыторыя слухачоў — 400–500 тысяч. Рэдактаркі — дзве, як яны прадставіліся, Святланы — Лукіч і Вукавіч-Месаровіч. Прычым праграма і сайт рыхтуецца ў асноўным пазаштатнымі аўтарамі, на 60–70 адсоткаў бясплатна. Асаблівасць: акрамя матэрыялаў па Сербіі на сайце змяшчаюць багата перакладаў з замежных крыніц, падлічылі — з 74. Іх пастаўляюць суайчыннікі, што з'ехалі за мяжу. Гэта дастаткова папулярныя публікацыі.

«Beta» — класічнае агенцтва навін, як падкрэсліў яго галоўны рэдактар Іван Цвеіч. Прыватнае. 180 журналістаў працуюць па ўсёй Сербіі, таксама ў шэрагу еўрапейскі краін. Пакупнікі прадукцыі агенцтва — на 70 працэнтаў СМІ, на 30 — партыі, дзяржаўныя і недзяржаўныя ўстановы і арганізацыі, амбасады і фірмы. Іх прадукцыя карыстаецца даверам, як якасная і дакладная. «Уплываць на нас, заўважыў спадар Іван, улады нават не спрабуюць, бо мы ведаем іх спосабы, а яны ведаюць устойлівасць нашых журналістаў». А вось само агенцтва ўплываць на сітуацыю спрабуе не толькі праз інфармацыю. У прыватнасці, даслалі ўладам патрабаванне — тэст на дэмакратычнасць: выдаліць з бюджэту фінансаванне агенцтва «Танюг».

Я выказаў шчырую радасць сваім калегам, што над імі не вісіць лязо рэпрэсій і яны могуць гаварыць і пісаць, што захочуць, абсалютна забыўшыся на пагрозу расправы. Такіх выпадкаў за 13 гадоў яны не ўзгадалі ніводнага.

Я разумеў сум калег, калі яны скардзіліся на вузкасць каналаў выхаду і ўплыву на масавую аўдыторыю, на таемную сістэму стрымлівання і ціску. Яны ж зразумелі мой сум, што іх праблемы — гэта праблемы нашага заўтрашняга дня. Але іх урокі лепш ведаць загадзя.

## 1 СНЕЖНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### БЕЛАРУСЬ 1

**07.20** Камедыйная меладрама «Поспех напракат» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Камедыйны серыял «9 месяцаў» (Расія).
**11.30** Даваярай і праваярай.
**12.10** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.40** Каробка перадач.
**13.15** Заўтра - гэта мы!
**13.45** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Медычныя таямніцы.
**16.00** БеларусьLIFE.
**16.25** Даваярай і праваярай.
**16.55** Прыгодніцкая камедыя «Астэрыкс і Абелікс супраць Цэзара» (Францыя - Германія - Італія).
**18.55** Камедыйны мюзікл «Залаты ключык» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Прыгодніцкі баявік «Ідэальныя ўцёкі» (ЗША).



**00.20** Камедыйны серыял «9 месяцаў».

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** «Вясельны перапалох».
**12.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.30** Прэм'ера. «Раманавы».
**14.35** Прэм'ера. «АіФ». Святочны канцэрт.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Эстрадны кактэйль».
**17.45** «Рассмяшы коміка».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Дыханне планеты».
**21.40** «Ледавіковы перыяд».
**00.40** Драма «Бабёр».

### СТВ

**06.05** «Next-3». Серыял.
**07.40** «100 адсоткаў».
**08.10** Фільм «Юнайтэд. Мюнхенская трагедыя» (Вялікабрытанія, 2011 г.).
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Іголка» (СССР, 1988 г.).
**14.20** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.55** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Далёка па суседстве» (2010 г.).



**22.35** Барацьба грэка-рымская. Міжнародны турнір.
**23.50** «Якія людзі!».
**00.45** Фільм «Кола фартуны» (ЗША, 1998 г.).



### БЕЛАРУСЬ 2

**07.50** Мультфільмы.
**08.05** Фільм-казка «Стары Хатабыч» (СССР).
**09.30** Тэлебарометр.
**09.35** Лірычная камедыя «Тры плюс два».
**11.20** Крымінальная камедыя «Берні» (ЗША).
**13.20** Біятлон. Кубак свету. Гонка пераследу. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**14.20** Футбол. Чэмпіянат свету-2014.
**15.20** Біятлон. Кубак свету. Гонка пераследу. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**16.20** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Хлопцы. Грошы. Каханне» (Расія).
**16.55** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Прамая трансляцыя.
**18.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Авантурная камедыя «Шпіёнскі запал» (Францыя).
**23.00** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Хлопцы. Грошы. Каханне» (Расія).
**23.35** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ.
**01.20** Спорт-кадр.

### БЕЛАРУСЬ 3

**08.00, 11.50, 13.45, 00.20** «Калейдаскоп».
**08.05** «Таямніца душы».
**08.35** «Кожны мае права быць розным».
**09.00** «АРТиШОК».
**09.35** «Георгій Жукаў. Вайна і мір Маршала Перамогі». Дакументальны фільм.
**10.10** «Купала і Колас. Два яблыкі на адной галінцы». Дакументальны фільм.
**10.35** «Вечар з сябрамі». Канцэрт зорак беларускай эстрады.
**11.20** «Карані».
**11.55** «Пётр Першы. Завяшчанне». 1-я - 4-я серыі.
**15.45** «Без права на дубль». Савецкі эстрадны спявак і кампазітар Яўген Мартынаў.
**16.35** Дзіцячы фільм. «Новы Гулівер».
**17.40, 22.20** «Культпрасвет».
**18.10** Сусветнае кіно. «Мадам Бавары».
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Сусветныя легенды». Эл Джэра ў Мінску.
**22.50** «Имел бы я златые горы...» Спектакль па п'есе М.Ладо «Вельмі простая гісторыя».

### НТВ

**06.25** Серыял «Дарожны патруль».
**08.00, 10.00, 13.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Першая передача».
**13.15** Фільм «Дэн».
**15.05** Серыял «Важняк».
**16.45** «Следства вялі...».
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.30** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** Прэм'ера. Фільм «Ганчакі: Добрыя хлопцы».
**23.20** «Як на духу».
**00.15** «Школа зласлоўя».

### МИР

**05.00** Мастацкі фільм «Блукаючыя агеньчыкі».
**07.20** Мультфільмы.
**07.50** Праграма «Таямніцы Эрмітажа».
**08.05** Праграма «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Зямля і неба».
**09.35** Праграма «Прыгоды Македонскай: зроблена ў Кітаі».
**09.50** Праграма «Са свету па нітцы».
**10.10** Мастацкі фільм «Омкара».
**13.00** Мастацкі фільм «Фаціма і Зухра».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.45** Тэлесерыял «Экстраны выклік».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** Тэлесерыял «Экстраны выклік».
**00.20** Мастацкі фільм «Бачнасць гневу».
**02.25** Праграма «Са свету па нітцы».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Пінгвінік Пік-Пок», «Прыгоды Ціўкі», «Занатоўкі натураліста».
**07.40** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 13 серыя.
**08.05** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 13 серыя.
**08.30** «Тата», маст. фільм, 1995 г., Польшча.
**18.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма). Погляд на Беларусь з Прагі.
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): Мова і ментальнасць.
**18.40** Забавы «Ліпі і Мэсі».
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі».
**19.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.25** «Час гонару», серыял: 62 серыя.
**20.10** Дакументальная гадзіна: «Кіеў ад золку да змяркання», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**21.00** Фільматэка майстроў: «Варажба жарлянкі», маст. фільм, 2005 г., Польшча–Германія.
**22.40** «Кароль-вінароб», серыял: 6 серыя.
**23.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 930 79 22 Міхась; |
| Мінск | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Для тых, хто прымае рашэнні!

Новы Час

www.novychas.info

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______

Кассир Всего ______

ПАРАЛЕЛІ

# МАДУРА ЗАБАРАНІЎ ІНФЛЯЦЫЮ

Алег НОВІКАЎ

**Венесуэльскі ўрад абвясціў, што краіна знаходзіцца ў стане эканамічнай вайны.**



Выказванні беларускага агітпропу пра адзінства народаў Беларусі і Венесуэлы, аказваецца, не такая ўжо і лухта. Напрыклад, у Венесуэле, што перажывае высокую інфляцыі, існуюць сайты, падобныя на наш славуты Prokopovi.ch, якія інфармуюць пра курс долара на чорным рынку (афіцыйны курс долара ў Венесуэлы пяць балівараў, у валютчыкаў — 11–12).

Гэтыя сайты dolarparalelo.org, preciodolar.info ў Венесуэле настолькі папулярныя, што імі вымушаны займацца на ўзроўні прэзідэнта. Нікалас Мадура аддаў загад заблакаваць згаданыя вышэй парталы, аргументаваўшы эмацыйным выразам: «Я ўжо сыты па горла гэтымі сайтамі». Дасталася і сетцы Twitter, праз якую, на думку ўлады, пашыраецца дэзінфармацыя пра нячэсныя валютныя курсы. Мадура заклікаў «вызваліць рэгіён» ад гэтай заразы.

Не адыходзячы ад касы, Мадура раскрыў матрыцу апошніх інфляцыйных працэсаў (у гэтым годзе інфляцыя ўжо дасягнула 54 працэнтаў). «Курс долара настолькі фантастычны і не адпавядае рэальнасці, што дазваляе разглядаць дзейнасць гэтых сайтаў як частку эканамічнай вайны, якая вядзецца апазіцыяй у мэтах поўнага калапсу венесуэльскай эканомікі», — сказаў прэзідэнт.

Каб цалкам не прайграць гэтую «эканамічную вайну» (афіцыйны тэрмін), улады пайшлі на самыя незвычайныя меры. У шэрагу сталічных крамаў, што гандлююць электронікай, прайшоў нечаканы рэйд сілавікоў. Дзяржаўныя інспектары шукалі тавары, на якія, на іх думку, была ўстаноўлена неабгрунтавана высокая цана. Тавары з неадэкватнымі коштамі былі тут жа канфіскаваныя і прададзеныя па «справядлівых» коштах. У сярэднім зніжка склала каля 10 працэнтаў.

Адміністрацыя абяцае, што «распродаж» электронікі — не адзінкавы эпізод, а толькі пачатак масавай кампаніі. «Паразіты Венесуэлы павінны быць гатовыя да таго, што пачынаецца рэвалюцыя», — красамоўна пракаментаваў апошнія падзеі Мадура. Пад «рэвалюцыяй» палітык разумее прапанаваны ім план барацьбы з карупцыяй і інфляцыяй. Галоўная мэта кампаніі, па словах гаранта, «стварэнне новай мадэлі эканомікі, пазбаўленай тых самых «буржуазных паразітаў».

План вайсковых дзеянняў на эканамічным фронце вельмі цікавы. Будуць створаныя так званыя «калектывы патрыётаў», якія зоймуцца пошукам спекулянтаў у раёнах. Дапамагаць ім будзе спецыяльная профільная пракуратура па барацьбе з карупцыяй і спекуляцыяй. Падазраваных у гэтых злачынствах можна будзе арыштоўваць без абавязковых заканадаўчых працэдураў, а чакаць іх можа аж 35 гадоў турмы. Ужо складзены спіс падазраваных у спекуляцыях. Таксама названая сума, якую трэба канфіскаваць у валютных спекулянтаў. Гэта 20 мільярдаў долараў, якія, быццам, дазваляюць валютчыкам уплываць на афіцыйны курс балівара.

Для правядзення неабходных мерапрыемстваў у гэтай галіне пераемнік Чавеса ўжо папрасіў у Нацыянальнай Асамблеі дадатковыя паўнамоцтвы, так званыя Habilitante, на адзін год.

Апазіцыя і бізнэс, натуральна, крытыкуюць апошнія ініцыятывы Мадуры. Па-першае, цяперашняя кампанія супраць чорнага рынку не першая. Па-другое, ігнаруюцца сістэмныя прычыны негатыўных з'яў. Прадпрымальніцкі сайт Dataestrategia лічыць, што галоўнай крыніцай карупцыі ёсць «цяперашняя непразрыстая схема размеркавання дзяржаўных фондаў».

Апазіцыя, у сваю чаргу, не выключае, што намеры Мадуры канцэнтраваць уладу ёсць «дымавая заслона для ліквідацыі палітычных апанентаў, якіх робяць стрэлачнікамі за ўсе эканамічныя правалы». «Гэта поўная крыміналізацыя нашых структур», — кажа адзін з апазіцыйных дэпутатаў у інтэрв'ю выданню «El Mundo». Не ў захапленні і журналісты. План Мадуры прадугледжвае стварэнне спецыяльнага цэнтра, якія будзе працаваць са СМІ. Цэнтр можа абвясціць любую інфармацыю «стратэгічнай» і забараніць яе распаўсюд праз СМІ.

У любым выпадку, патрабаванне Habilitante супярэчыць Канстытуцыі, якая дазваляе ўстанаўліваць у краіне надзвычайны рэжым выключна ў выпадку прыродных катастрофаў. Відавочна, што праціўнікі Мадуры будуць аспрэчваць яго ініцыятывы праз Вышэйшы суд.

У колах апазіцыі таксама спадзяюцца на раскол унутры чавіскага лагеру. Сапраўды, тут сабралася вельмі стракатая публіка — ад аматараў кубінскага вопыту будаўніцтва сацыялізму да прыхільнікаў сацыял-рэфармізму і яскравых кар'ерыстаў. Некаторым з чавістаў не падабаюцца прапановы Мадуры наконт Habilitante. Менавіта таму, па словах апазіцыйных і замежных СМІ, апошнім часам венесуэльцы сталі сведкамі незвычайных скандалаў. Тры дэпутаты, вядомыя як крытыкі Мадуры, абвінавачаныя ў карупцыі, што, паводле мясцовых законаў, дазваляе пазбавіць іх мандатаў. У такім разе Мадура мае шанец працягнуць сваю ідэю праз парламент.

Аднак галоўнае пытанне — не лёс галасавання па праекту Habilitante, а нашто ён увогуле здаўся? Пад уплывам якіх фактараў Мадура вырашыў радыкальна трансфармаваць палітычны пейзаж краіны? Гэта папросту часовая кампанія, або выкліканы нейкімі глабальнымі прычынамі трэнд?

Першая версія — страх уладаў прайграць муніцыпальныя выбары, якія адбудуцца прыкладна праз пяць тыдняў. Шэсць месяцаў праўлення Мадуры нельга назваць прарывам. Галоўным чынам Нікалас праславіўся незвычайным талентам медыума: у венесуэльскага гаранта атрымліваецца нейкім чынам, па яго словах, уступаць у кантакт з духам нябожчыка Уга. Той з'яўляецца Мадуры то ў сне, то ў выглядзе птушкі, то становіцца выявай у тунэлі метро. І тут рaптам выбары. Мадуры трэба прадэманстраваць, што краіна рушыць наперад. У атмасферы неўрозу і ўзнікла ідэя зачысткі эканомікі ад паразітаў.

На думку лідара апазіцыі Энрыке Капрылеса, Мадура так і не змог стаць сапраўднай рэінкарнацыяй Чавеса ў вачах яго прыхільнікаў. Гэта выклікае хаос і анархію ў структурах PSUV (урадавая партыя), пакласці канец якой прэзідэнт хоча за кошт дадатковых паўнамоцтваў.

Адзін з былых саратнікаў Чавеса лічыць, што сітуацыя больш крытычная. На левым сайце Aporrea ён кажа: «Эканамічны крызіс набраў такія тэмпы, што ў атачэнні Мадуры зразумелі — наступныя выбары будуць прайграныя. Таму адзіны выхад — устанавіць мілітарысцкі рэжым».

Часткова з такой ацэнкай згодна іспанская «El Pais». Яна знаходзіць шмат падобнага ў апошніх учынках Мадуры і зімбабвійскага дыктатара Мугабэ. «Заявы і ўчынкі прэзідэнта Венесуэлы маюць прэцэдэнт. У 2007 годзе пасля таго, як на працягу 15 гадзінаў кошты ў Зімбабве выраслі ўдвая, Мугабэ забараніў інфляцыю і патрабаваў зачыняць усе камерцыйныя ўстановы, якія ўздымаюць кошты».

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Натуральна, ніякіх «велізарных грошай» улады ў краіне не знойдуць. Нават выкарыстанне метадаў бальшавікоў-шарыкавых («узяць і падзяліць») не дапамогуць, бо створаная або часткова атрыманая ў спадчыну з часоў СССР эканамічная сістэма не працуе — яна спажывае валюту, выдаючы беларускія рублі, якія нельга канвертаваць. Змяніць яе адміністрацыйнымі метадамі («не саджай бульбу, а вырошчвай выгадныя ананасы / мармуровае мяса») немагчыма. Фактычна, у беларускай эканоміцы працягваецца сістэмны крызіс з 2011 года, прычыны якога ўладам так і не хапіла духу публічна прааналізаваць і прыняць рашэнне аб структурнай рэформе. Больш за тое, улады нават не адважыліся пачаць у рэспубліцы публічную эканамічную дыскусію з прыцягненнем прадстаўнікоў розных тэарэтычных напрамкаў і замежных экспертаў. Замест гэтага кіраўніцтва рэспублікі, у чарговы раз стаўшы банкрутам, гатовае атрымліваць любыя грошы ў любых краінах свету на любых умовах, працягваючы ўпарта паўтараць аб «правільнасці абранага курсу».

**«Politobzor» (Расія)**

Жаданне дырэктараў і чыноўнікаў адвесці ўдар ад сябе лагічна і зразумела, але, на думку экспертаў, асуджана на правал. Калі нейкае прадпрыемства ўжо абрана ў якасці ахвяры, то прыбраная тэрыторыя не дапаможа. Задача Лукашэнкі — прадэманстраваць народу, што «баяры дрэнныя, цар добры», упэўнены мясцовыя назіральнікі. «Чысткі ў шэрагах чыноўнікаў павінны падавацца вока і сэрца электарату Лукашэнкі, падтрымліваючы імідж добрага прэзідэнта, якому ўсе перашкаджаюць». Нагадаем, што чарговыя прэзідэнцкія выбары ў Беларусі адбудуцца ў 2015 годзе. На мінулым тыдні, прымаючы чарговыя кадравыя рашэнні, Лукашэнка даў зразумець, што мае намер у іх удзельнічаць. Да ўлады нязменны беларускі прэзідэнт можа прыйсці толькі па галовах «ворагаў краіны».

**«Независимая газета» (Расія)**

Каб даказаць сваю незаменнасць у сістэме ўладнай вертыкалі, прызначанай асабіста прэзідэнтам, функцыянерам не застаецца нічога іншага, як шнарыць у кішэнях грамадзян і выдаваць на гара недарэчныя ідэі, кшталту падатку на дармаедаў. Тым больш, што адказнасці за магчымыя наступствы нованвядзенняў чыноўнікі не панясуць. Хіба штоператасуюць іх ва ўладнай калодзе з адной пасады на іншую. Ясна, што чарговая недарэчная задумка распрацоўшчыкаў беларускай эканомікі не прынясе чаканых фінансавых вынікаў. Таму ў Беларусі ўжо даўно варта было б увесці падатак на абсурд чыноўнікаў. За гады кіравання Лукашэнкі ён прынёс бы ў бюджэт краіны нашмат большы даход, чым выдумка ўладаў аб падатку на дармаедаў.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Цяпер грошы заканчваюцца, і становіцца ясна, што ў Масквы няма ні жадання, ні — калі ўжо быць сумленнымі да канца — магчымасці ўтрымліваць свайго беларускага кліента. І што робіць Аляксандр Рыгоравіч? Запрашае ў Мінск «гарвардскіх хлопчыкаў»? Прыступае да маштабнай прыватызацыі стратэгічных аб'ектаў? Задумваецца пра тое, што яго шалёны рэжым можа быць пахаваны разам з ім пад развалінамі беларускай эканомікі? Нічога падобнага! Лукашэнка нацыяналізуе ўжо прыватызаванае. Ну і, вядома ж, у дадатак увесь час «ператрахвае» свае нямоглыя кадры, быццам не заўважаючы, што яны не могуць нічога зрабіць з непрацаздольнай сістэмай.

**«Грани» (Расія)**

Прэзідэнта Беларусі на саміце ў Вільні, як і на папярэднім Варшаўскім, бачыць не хочуць. Чакаецца, што краіну будзе прадстаўляць хтосьці з кіраўніцтва МЗС. Беларусь — адзіны ўдзельнік праграмы, па якой Еўропа ўвяла санкцыі за парушэнні правоў чалавека і пераслед апазіцыі. У эфектыўнасці гэтых санкцый сумняваюцца многія эксперты. Некаторыя еўрапейскія палітыкі заклікаюць выкарыстаць саміт для разблакавання стасункаў з Аляксандрам Лукашэнкам, які разам з Уладзімірам Пуціным будуе Мытны саюз.

**TVI (Украіна )**

Між тым, у Беларусі, краіне — удзельніцы Мытнага саюза, пачалося чарговае валютнае абвастрэнне, і нават запэўніванні яе прэзідэнта Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі пра тое, што дэвальвацыі не будзе, не ратуюць ад валютнай ліхаманкі. Апазіцыйная прэса піша, што нібыта ў беларускім урадзе рыхтуецца прэзідэнцкі ўказ аб абмежавальных мерах па свабоднаму абмену наяўнай валюты. Калі гэта так, то беларускія ўлады, мабыць, вырашылі пайсці па шляху Узбекістана, улады якога ўзялі і адмянілі хаджэнне наяўнай замежнай валюты на тэрыторыі краіны. Але, як паказала жыццё, эканоміка краіны лепш працаваць ад гэтага не стала, у адрозненне ад валютчыкаў, чый нелегальны бізнэс расквітнеў пышным колерам, нягледзячы на ўзмацненне ў заканадаўстве Узбекістана крымінальнай адказнасці за незаконныя валютныя аперацыі. Але калі чужы досвед утрымліваў каго-небудзь ад уласных памылак?

**«Республика» (Казахстан)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ПАЎНОЧНАЯ КАРЭЯ. КІМ ЧЭН ЫН І ЗДАРОЎЕ

Правадыр Паўночнай Карэі таварыш Кім Чэн Ын вельмі клапоціцца пра здароўе суайчыннікаў. Пабачылі свет восем правілаў здаровага ладу жыцця, якіх павінен прытрымлівацца кожны аматар ідэй чучхэ. Вось гэтыя правілы: 1. Прыём ежы з апетытам і без пераборлівасці. 2. Хуткае спаражненне пры патрэбе. 3. Хуткае засынанне. 4. Складаная і хуткая гаворка. Што значыць дакладнае мысленне і здаровы стан мозгу, сэрца і лёгкіх. 5. Хуткая хада. Свабодныя і бадзёрыя рухі кажуць аб поўным зарадзе энергіі. 6. Пастаянна вясёлы настрой. Што сведчыць пра моцную волю, развітыя пачуцці, жыццярадасны душэўны склад і велікадушнасць. 7. Актыўны ўдзел у грамадскай дзейнасці. 8. Добрыя адносіны з людзьмі. Пакуль, праўда, інструкцыі вялікага правадыра, прынамсі за мяжой, выклікалі крытычныя заўвагі. Каментатары адзначаюць, што вясёлы настрой увесь час могуць мець выключна наркаманы.

**Паводле карэйскай і расійскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. ЗАМЕСТ «ОДНОКЛАССНИКИ» — «СУПЛЯМЕННІКІ»




У Казахстане створаны сайт Rulas.kz — аналаг вядомага сайта «Одноклассники». Аднак пры рэгістрацыі на Rulas.kz карыстальнік у абавязковым парадку павінен адзначыць, да якога роду казахскага народа ён належыць. Іншымі словамі, карыстальнікі ў сеціве групуюцца па родах. На думку стваральнікаў, такая канцэпцыя цалкам адлюстроўвае структуру казахскага грамадства, дзе дасюль захаваўся падзел на жузы. Не паспеў Rulas.kz з'явіцца ў сеціве, як вакол яго разгарнуліся спрэчкі. Адны кажуць, што ідэя добрая, паколькі юзеры будуць адчуваць адказнасць за гонар жуза, выказваючы сваю думку. Іншыя кажуць, што праекты накшталт Rulas.kz кансервуюць архаічныя перажыткі казахаў. Больш таго, быццам, падзел на роды здольны выклікаць напружанне ў грамадстве. Самі аўтары Rulas.kz лічаць, што міжкланавае напружанне немагчымае, паколькі інтэрнэт-форумы магчымыя толькі для сяброў аднаго роду. Між тым, дадатак сайта Rulas.kz, адаптаваны да прылад на аперацыйнай сістэме Android, у Казахстане загрузілі ўжо больш за пяць тысяч чалавек.

**Паводле казахскай прэсы**

### РУМЫНІЯ. ЗНОЎ ШУКАЮЦЬ ГРОШЫ ЧАЎШЭСКУ

У Румыніі аднаўляецца пошук «золата Чаўшэску». Як заявіў у эфіры «Kanal D» журналіст Штэфан Строе, сакрэтныя банкаўскія рахункі пакаранага румынскага кіраўніка трэба шукаць у Канадзе. «Грошы знаходзяцца ў Канадзе. Банк называецца «Royal Bank», а сума грандыёзная. Гаворка ідзе пра эквівалент соцень мільярдаў еўра. Многія афіцыйныя асобы ведалі пра гэтыя рахункі. Я неўзабаве прадстаўлю доказы. Я перакананы, што гэтыя рахункі цяпер актыўны. У мяне ёсць яго лічбавы нумар і подпіс. Грошы паступалі на яго з 1981 года», — заявіў Строе. Журналіст не даў ніякіх тлумачэнняў адносна крыніцаў сваёй інфармацыі. Нагадаем, што пошукі тайных рахункаў Чаўшэску вядуцца з моманту падзення яго рэжыму ў 1989 годзе. За мінулыя больш чым 20 гадоў ні адна з зачэпак не прывяла да знаходкі якіх-небудзь банкаўскіх актываў кіраўніка сацыялістычнай Румыніі.

**Паводле румынскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. КРЫЗІС КААЛІЦЫЙНЫХ ПЕРАМОВАЎ

У Лейпцыгу прайшоў з'езд партыі нямецкіх сацыял-дэмакратаў (SPD). Зборы, на думку назіральнікаў, адлюстравалі рост праціўнікаў уваходу партыі ў кааліцыю з хрысціянскімі дэмакратамі (CDU). Нагадаем, што пасля парламенцкіх выбараў 22 верасня ніводная партыя ў Бундэстагу не атрымала большасці. Ангела Меркель, лідар CDU — партыі, якая мае найбольш мандатаў, вядзе перамовы наконт стварэння так званай Вялікай кааліцыі з эсдэкамі. Аднак перамовы ідуць ужо амаль месяц, а вынікаў няма. Між тым, у SPD набірае моц фракцыя праціўнікаў кааліцыі, якіх натхняюць выступы прафсаюзаў у Францыі. Яны лічаць, што блок з Меркель пахавае імідж партыі як палітычнай сілы, якая абараняе правы працоўных. Хістанні сярод эсдэкаў адлюстравалі выбары кіраўніцтва партыі. Стары старшыня Зігмар Габрыэль і яго каманда прагматыкаў, якая выступае за кааліцыю, былі пераабраныя, аднак за кошт невялікай колькасці галасоў дэлегатаў. На думку некаторых СМІ, партыя можа не падтрымаць праграму вялікай кааліцыі, якую Габрыэль абяцаў прадставіць праз 15 дзён. Цікава, што скепсіс у шэрагах эсдэкаў выклікаў рост актыўнасці сярод тых Зялёных, якія выступаюць за партнёрства з Меркель. Зялёныя патэнцыйна таксама могуць стаць кааліцыянтамі, аднак раней на сваім з'ездзе эколагі выказаліся супраць такой перспектывы. Некаторыя палітолагі не выключаюць, што ідэя ўраду зялёных і хрысціянскіх дэмакратаў можа хутка адрадзіцца.

**Паводле нямецкай прэсы**

▸ ГЕАПАЛІТЫКА

# ВІЛЬНЮСКІ САМІТ: АД КАГО ЧАКАЦЬ СЕНСАЦЫЙ?

*Алег НОВІКАЎ*

**Лічылася, што на саміце «Усходняга партнёрства», які пройдзе 28–29 лістапада ў Вільнюсе, галоўнай тэмай будзе падпісанне дамовы аб Асацыяцыі ЕС і Украіны. Аднак сенсацый і прарываў трэба чакаць ад іншых краін-удзельніц УП.**

Нагадаем, што ўдзельніцамі праграмы «Усходняе партнёрства» з'яўляюцца шэсць краін: Беларусь, Малдова, Украіна, Азербайджан, Арменія і Грузія (Расію таксама запрашалі, але яна адмовілася). Іх ступень удзелу ў праграмах УП неаднолькавая.

Да апошняга часу найбольш праеўрапейскай сярод краін «Усходняга партнёрства» лічылася Украіна. Урад у Кіеве атрымліваў найбольшую фінансавую дапамогу (каля паловы мільярда еўра за перыяд з 2007 па 2010 год). Гэта ўдвая больш, чым Малдова, і ўтрая — чым Грузія. Украіна першай, у 2011 годзе, завяршыла перамовы аб асацыяцыі, якая прадугледжвае стварэнне зоны свабоднага гандлю. Але працэсы вакол Юліі Цімашэнка і Юрыя Луцэнкі, а таксама крымінальныя справы супраць іншых апазіцыянераў, абурылі ЕС. Брусэль адклаў парафіраванне дакумента (зацвярджэнне канчатковай рэдакцыі). Прыкладна год таму дыялог аднавіўся.

Нягледзячы на тое, што за месяц да пачатку саміта кіраўнік Еўракамісіі Жазэ Барозу не хаваў таго, што бакі блізкія да згоды, фактар Цімашэнка працягвае дамоклавым мячом вісець над падпісаннем дамовы. На думку часткі еўраэліты, падпісанне дамовы магчыма толькі ў выпадку, калі Украіна спыніць практыку выбарачнага правасуддзя. Гэта значыць, пакуль Цімашэнка ў турме, Брусэль пагадненне не падпіша. Цімашэнка дасюль за кратамі, што дазваляе шмат каму казаць: Кіеў зноў застанецца за бортам еўракарабля.

Аднак месца любімчыка ЕС не будзе вакантным. Калі Кіеў не дамовіцца па Цімашэнка, усе бонусы ў Вільнюсе дастануцца камусьці іншаму. Дэмакратычная прэса Украіны перакананая, што новым фаварытам стане Тбілісі. Звяртаюць увагу на тое, што новыя ўлады выканалі адну з просьбаў еўрапейцаў — не паўтараць памылкі Украіны, не спрабаваць зводзіць рахункі з палітычнай апазіцыяй, і перш за ўсё асабіста з экс-прэзідэнтам Міхаілам Саакашвілі. Георгій Маргвелашвілі, новы грузінскі гарант, сапраўды, апошнім часам не так катэгарычна кажа наконт магчымага пераследу Саакашвілі. Дарэчы, прадстаўляць Грузію ў Вільнюсе будзе новы прэзідэнт.

Аднак палітолагі лічаць, што грузінская тэма не будзе на саміце вызначальнай. Пра гэта ўскосна сведчаць і словы прэзідэнта Літвы Далі Грыбаўскайтэ. Пасля візіту на інагурацыю Маргвелашвілі яна адзначыла, што «назіраецца вялікі прагрэс у гэтай краіне, але ў Грузіі яшчэ доўгі шлях да пагаднення аб асацыяцыі з ЕС». «Яшчэ трэба выканаць шмат хатняй працы. Вельмі важна, каб пасля змены ўлады мы бачылі прагрэс, асабліва ў рэформе праваахоўных органаў, каб не вярнуўся феномен выбарчага правасуддзя, каб быў перакрыты шлях пераследу палітычных апанентаў», — лічыць Грыбаўскайтэ.

На думку расійскай прэсы, асцярожны падыход ЕС да кандыдатуры Грузіі таксама звязаны з праблемай тэрытарыяльнай цэласнасці і юрыдычнага статусу Абхазіі і Паўднёвай Асеціі. ЕС, на думку расійскіх назіральнікаў, знаходзіцца ў пэўным канцэптуальным тупіку па гэтым пытанні.

Куды больш рэальнай кандыдатурай на «фаварыта ЕС» лічыцца Малдова. Увогуле, Кішынёў і Брусэль у Вільні плануюць парафіраваць пагадненне аб асацыяцыі і падпісаць дамову ў 2014 годзе — гэта значыць, да заканчэння паўнамоцтваў цяперашняга складу Еўракамісіі.

Аднак сенсацыя можа прагучаць раней. На днях кіраўнік Еўракамісіі, усё той жа Барозу, заявіў: «Еўракамісія будзе рэкамендаваць Савету ЕС адмяніць візавы рэжым з Малдовай. У якім аб'ёме, пакуль не вядома. Аднак калі ў Вільнюсе гэтаму працэсу дадуць зялёнае святло, Малдова можа першай атрымаць ад ЕС тое, што для астатніх дзяржаў ледзь не самае галоўнае ў УП — права грамадзян без віз ездзіць у Еўропу.

Другая краіна, ад якой можна чакаць сенсацый, — Азербайджан. На першы погляд, гэта нонсэнс. Баку асабліва актыўна ў Еўропу не лез з-за зразумелых прычын: вотчына Аліева — адна з самых аўтарытарных краін у постсавецкім рэгіёне. З іншага боку, ніхто асабліва Аліева ў Еўропе не крытыкуе. У чэрвені 2013-га міжнародны кансорцыум па распрацоўцы радовішча «Шах-Дэніз» вызначыўся з маршрутам транспарціроўкі газу з Азербайджана ў Еўропу. Вырашылі будаваць Трансадрыятычны газаправод. У Еўропе з ім звязваюць надзею на змяншэнне залежнасці ад газу з Расіі.

**Апошнім часам у Азербайджане нечакана зацікавіліся праеўрапейскім вектарам. Прычына — пагаршэнне адносін з Масквой**

Аднак апошнім часам у Баку нечакана зацікавіліся праеўрапейскім вектарам. Прычына — пагаршэнне адносін з Масквой. Яны азмрочаны справай азербайджанца Архана Зейналава, якога вінавацяць у забойстве Ягора Шчарбакова, што справакавала масавыя пагромы ў маскоўскім раёне Бірулёва. Азербайджан стаў на абарону свайго грамадзяніна з рашучасцю, якой яўна не чакалі ў Расіі. МЗС Азербайджана ўжо перадаў у Маскву дзве ноты пратэсту, звязаныя з адсутнасцю ў работнікаў пасольства магчымасці сустрэцца з Зейналавым.

Таму, быццам, азербайджанцы гатовыя абмеркаваць з Еўрасаюзам візавыя праблемы. Калі верыць украінскай прэсе, Ільхам Аліў патрабаваў ад чыноўнікаў дыверсіфікацыі накірункаў эміграцыі азербайджанцаў. Відавочна, што наяўнасць вялікай дыяспары азербайджанцаў у Расіі робіць Баку закладнікам паўночнага суседа: шматлікія азербайджанскія сем'і выжываюць за кошт грашовых замежных пераводаў. Не абышла прэса і візіт Аліева ў Кіеў 17 лістапада (гэта быў другі пасля інаўгурацыі афіцыйны замежны візіт Аліева). У Кіеве ўкраінскі і азербайджанскі прэзідэнты загаварылі аб магчымасці адраджэння антымаскоўскага блока ГУАМ (Грузія, Украіна, Азербайджан, Малдова) з верагодным удзелам Турцыі ў гэтым аб'яднанні. Ці атрымае рэгіянальная ініцыятыва працяг, стане вядома ў Вільнюсе.

Як не дзіўна, галоўным расчараваннем саміта будзе не Беларусь, а Арменія. Арменія таксама ішла да асацыяцыі з ЕС. І крочыла дастаткова бойка. Улетку Ерэван і Брусэль завяршылі перамовы і збіраліся парафіраваць пагадненне на саміце ў Вільні, каб падпісаць асацыятыўную дамову ў 2014 годзе. Але на пачатку верасня прэзідэнт Серж Саргсян сустрэўся ў Расіі з Уладзімірам Пуціным. Пасля гэтага Ерэван нечакана перадумаў паглыбляць адносіны з Еўрасаюзам, заявіўшы аб жаданні ўступіць у Мытны саюз. Амаль усе аналітыкі згодныя, што рашэнне Саргсяна было следствам адкрытага ціску з боку Масквы. Так ці інакш, у ЕС вельмі расчараваныя такім крокам Ерэвана. Цяпер ніхто не ведае, якім будзе новы фармат супрацоўніцтва. Аналітыкі прапануюць пакуль напросту пачакаць. Відавочна, што ўступленне ў Мытны саюз шматлікія армяне не зразумелі. Цяпер сам Саргсян вымушаны рабіць дзіўныя манеўры, з вінаватым выглядам падсоўваючы Брусэлю нейкі скарочаны план супрацоўніцтва.

ЦІКАВА

# ЧАРГОВАЯ РЭВІЗІЯ ГІСТОРЫІ

Алег НОВІКАЎ



**За год да 70-й гадавіны варшаўскага паўстання польскаму грамадству прапануецца перагледзець яго ўрокі і прызнаць паўстанцаў сталінскімі калабарантамі.**

«Новы час» ужо пісаў пра бум, які перажывае за Бугам жанр «альтэрнатыўная гісторыя». У авангардзе працэсу ідзе правы публіцыст Пётр Зыховіч (Piotr Zychowicz). Яго леташняя кніга «Пакт Рыбентроп—Бек» стала бестселерам. Такі поспех ёй, безумоўна, прынесла бязмежная фантазія аўтара. Папросту дух захоплівае ад версіі гісторыі Другой сусветнай вайны, якую прапануе Пётр.

На яго думку, у 1939 годзе польскі палітыкум павінен быў прыняць гітлераўскі ўльтыматум з патрабаваннем перадачы немцам Гданьску. У такім выпадку Рыбентроп падпісаў бы дамову не з Молатавым, а яго польскім калегам Бекам. Тактычны саюз з палякамі дазволіў бы Вермахту лёгка перамагчы СССР. Наступствам краху Сталіна магло, на думку аўтара, стаць адраджэнне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года.

Аднак гэта толькі падводка да кульмінацыйнага раздзелу кнігі. Як толькі Берлін уступае ў канфлікт з ЗША, Варшава робіць адзюльтэр былому саюзніку і пераходзіць на бок антыгітлераўскай кааліцыі. Апошняя для разгрому Вермахту ў Еўропе пускае ў ход атамную зброю. У выніку на фінальным этапе вайны на руінах Еўропы застаецца толькі адна дзяржава-гегемон. Гэта, зразумела, Польшча.

Той факт, што кніжка стала лідарам продажаў, сведчыць пра адпаведныя трэнды ў польскай калектыўнай думцы. Прычым кніга Зыховіча карыстаецца попытам, нягледзячы на іранічныя каментары сур'ёзных гісторыкаў. Тыя ахвотна закідвалі аўтара пытаннямі накшталт: штоб было, калі Гітлер раней за ЗША змог стварыць атамную бомбу? Які лёс чакаў бы польска-нямецкі хаўрус, калі б у ЗША перамаглі фракцыі ізаляцыяністаў, і краіна ўвогуле адмовілася б ад удзелу ў вайне?

Пазітыўная рэакцыя аўдыторыі падштурхнула Зыховіча на новыя правакацыйныя канцэпцыі. Не так даўно пабачыла свет яго кніжка «Obikd'44». Яе тэзісы гучаць яшчэ больш правакацыйна, паколькі на гэты раз Зыховіч замахнуўся на адзін з галоўных польскіх нацыянальных міфаў — спадчыну Арміі Краёвай (АК) і славутае Варшаўскае паўстанне.

На думку аўтара, лідары АК і ўвогуле ўвесь тагачасны польскі эміграцыйны ўрад былі палітычнымі лузерамі. Яны цалкам прадаліся брытанцам, якія за спіной палякаў гандляваліся з СССР наконт будучыні Польшчы. У выніку Чэрчыль прадаў Польшчу Сталіну на канферэнцыі ў Тэгеране 1943 года. Прычым усе пра гэта ведалі, аднак галосна не казалі. Менавіта лонданская эміграцыя і кіраўніцтва АК, нашпігованай, калі верыць аўтару, агентамі з НКУС, быццам, навязалі польскаму падполлю памылковую ўстаноўку барацьбы з нямецкімі акупантамі.

Апагеем правальнага антынямецкага курсу АК было, на думку Зыховіча, тое самае паўстанне ў Варшаве ў 1944 годзе, якое, быццам, прыдумалі, каб арганізаваць... урачыстую сустрэчу перадавых калонаў наступаючай з-за Віслы Чырвонай Арміі. Загад пачынаць паўстанне меў трагічныя вынікі: разбурэнне сталіцы, забойства 200 тысяч жыхароў гораду, знішчэнне нацыянальнай эліты, што паскорыла працэс саветызацыі Польшчы.

Асобна аўтар пнуў такую сакральную тэму, як гераічны ўдзел у варшаўскім паўстанні падлеткаў (па падліках, на барыкадах у Варшаве змагалася каля паўтысячы дзяцей). Зыховіч лічыць, што прыцягненне тынейджараў у вайсковыя дзеянні, а тым больш у барацьбу супраць элітных войскаў SS, — адно з самых жудасных гуманітарных злачынстваў. Зыховіч цытуе сучаснікаў паўстання, якія заклікалі да судовага трыбуналу над лідарамі АК. Ён таксама прыводзіць шмат малавядомых фактаў, калі варшавяне цураліся паўстанцаў, называлі іх бандытамі. Абывацелі баяліся, што немцы ў адказ на выступ пачнуць татальную зачыстку, асабліва не разбіраючыся, хто вінаваты.

Кніга шакавала польскае грамадства. На гэты раз Зыховіча крытыкуюць нават правыя. Яны адзначаюць, што, па сутнасці, падыход Зыховіча нагадвае тэзісы прапаганды часоў камуністычнай Польшчы, калі АК трактавалі як банду авантурыстаў.

Асноўныя аргументы супраць канцэпцыі Зыховіча звязаныя з тым, што ён прапануе ўзамен курсу АК. Аўтар мяркуе, што палякам падчас Другой сусветнай вайны трэба было дазволіць немцам і Саветам знішчаць адзін аднаго. У такім выпадку Чырвоная Армія падчас набліжэння да польскіх межаў была б больш слабай, і АК мела шанс не дапусціць савецкай акупацыі. У якасці прыкладу ён прыводзіць вопыт чэхаў, якія даволі пасіўна супрацьстаялі немцам. У выніку чэшская нацыя не панесла такіх стратаў, як палякі. Плюс удалося захаваць ад разбурэння залатую Прагу.

Вайсковыя акцыі, паводле Зыховіча, трэба было абмежаваць крэсамі. Аўтар смакуе эпізоды гісторыі нейкіх фармаванняў АК на Віленшчыне і Навагрудчыне, якія заключылі з немцамі мір для сумеснай барацьбы з прасавецкімі партызанамі.

Такі падыход, на думку крытыкаў, яўна супярэчыць рэаліям Другой сусветнай вайны. Па-першае, палітычная пасіўнасць не адпавядае польскаму менталітэту. Тым больш ва ўмовах, якія немцы навязалі палякам — публічныя расстрэлы, інстытут закладнікаў (50 палякаў за кожнага забітага немца) і г.д. «Рух супраціву паўстаў у Польшчы не з-за адпаведна загаду, а як рэакцыя на брутальнасць фашыстаў. Крытыка Зыховіча антынямецкага падполля ёсць антыгістарычная. Тэрор немцаў быў больш шакуючы. Саветы ўсё ж не практыкавалі публічныя экзекуцыі», — піша адзін з апанентаў Зыховіча.

Што тычыцца чэшскага варыянту, то, на думку гісторыкаў, гэта асобны выпадак. Гітлер не чапаў чэхаў не таму, што яны былі лаяльнымі, а таму, што іх разглядалі часткай нямецкай прасторы (Чэхія ўваходзіла ў Імперыю Габсбургаў).

Нарэшце, Зыховіч ніводнага разу не згадвае лёс польскіх грамадзян яўрэйскага паходжання. Ідэя «нічога не рабіць» значыла згоду палякаў на Халакост.

Праўда, уся гэта аргументацыя яўна не адбіваецца на продажах. Кніга карыстаецца попытам. У сувязі з гэтым крытыкі ўпершыню кажуць, што антыкамунізм набывае сярод часткі палякаў абсалютнае вымярэнне. У выніку гэта прыводзіць да попыту на дзікія і адначасова прымітыўныя гістарычныя канцэпцыі, якія сістэмна афарміць магчыма толькі з дапамогай жанру гістарычнай фантазіі.

Аўтар адной з рэцэнзій перакананы, што гэта толькі пачатак. У наступнай кнізе Зыховіч апіша, як файна было жыць у акупаванай Польшчы, калі б палякі мелі свайго Квіслінга.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ІРЫНА ФАРЫЁН



Фарыён — адна з лідараў украінскай нацыяналістычнай партыі «Свабода». Ірына (дарэчы, эфектная бландзінка) даўно стала жывым сімвалам усяго, што звязана з радыкальным нацыяналізмам. Дастаткова ўзгадаць яе ідэю ўвесці штрафы за публічнае выкарыстанне рускай мовы. Менавіта таму такі рэзананс выклікала інфармацыя пра тое, што Ірына ў савецкі час магла быць сябрам КПСС. Фішка ў тым, што сама Ірына даўно заклікае забараніць усім былым камуністам займаць дзяржаўныя пасады. Акрамя таго, яна неаднаразова адмаўляла сваё магчымае сяброўства ў КПСС. У выніку скандалу высветлілася, што нацыяналіста сапраўды паспела пабываць у КПСС. Яна ўступіла ў партыю Леніна, будучы кіраўніком аднаго з факультэтаў нейкага львоўскага ВНУ. Каб неяк рэабілітаваць Ірыну, лідар «Свабоды» Алег Цягнібок параўнаў яе з Ангелай Меркель. Цяперашні канцлер ФРГ, як вядома, вырасла ў ГДР і, зразумела, не магла не быць у маладосці сябрам моладзевых камуністычных арганізацыях. На думку палітолагаў, казус Фарыён паскорыць палітычны заняпад «Свабоды». На мінулым тыдні група правых інтэлектуалаў Кіева заклікала да стварэння новай правай партыі, паколькі, на іх думку, «Свабода» аказалася занадта «правінцыйнай».

### ФРАНСУА АЛАНД



Пасля таго, як 19 лістапада французская зборная па футболу сенсайцыйна перамагла Украіну з лікам 3-0 і забяспечыла сабе пуцёўку ў фінал чэмпіянату свету па футболу, краіну ахапіла сапраўдная эйфарыя. Некаторыя парламентары нават прапанавалі абвясціць 20 лістапада выходным днём. У сувязі з гэтым прэса спрачаецца, ці здольны футбол паўплываць на палітычны лёс французскага прэзідэнта Франсуа Аланда. Як вядома, апошнім часам рэйтынг французскага прэзідэнта стабільна падаў. Адначасова ў краіне актывізаваліся сацыяльныя і апазіцыйныя рухі. Аднак цяпер калектыўныя настроі ў грамадстве змяніліся. Прычым бонусы яўна атрымлівае не правая апазіцыя, а менавіта сацыялісты. Як вядома, героямі матчу сталі чарнаскурыя футбалісты — дзеці эмігрантаў, да якіх Сацпартыя ставіцца больш талерантна, чым правыя партыі. Аднак самі футбалісты здольныя пахаваць прэзідэнта. Як вядома, Франсуа Аланд дазволіў узняць падаткі на заробкі футбалістаў, якія складаюць цяпер 75 працэнтаў. Спартсмены неаднаразова пратэставалі супраць новай меры і выказвалі намер пакінуць французскія клубы.

### ГУРБАНГУЛЫ БЕРДЫМУХАМЕДАЎ

Прэзідэнт Туркменіі стрымаў слова — зрабіць наступны туркменскі парламент двухпартыйным. У барацьбу за мандаты дазволілі ўступіць другой партыі. Раней у краіне дзейнічала выключна адна Дэмакратычная партыя Туркменістану. Цяпер канкурэнцыю ёй складзе Партыя прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў Туркменістана (ППТ). Яшчэ летась кіраўнік дзяржавы распарадзіўся стварыць новую палітычную партыю. «З'яўленне ў нашай краіне апазіцыйнай партыі стане важнай падзеяй у грамадска-палітычным жыцці краіны», — абвясціў ён. Па яго словах, шматпартыйнасць дазволіць Туркменістана «развівацца і ўдасканальвацца на прынцыпах праўдзівай дэмакратыі». Партыю прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў Туркменістана ўзначаліў галоўны старшыня прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў Аразмамед Мамедаў. Цяпер партыя атрымала магчымасць рэгістраваць сваіх кандыдатаў на выбары, якія пройдуць 15 снежня. Як лічаць эксперты, рэжым Бердымухамедава становіцца больш прывабным у палітычным і іміджавым плане ў першую чаргу для Захаду. Аднак жорсткай палітычнай барацьбы падчас выбарчай кампаніі чакаць не варта.



▶ УСПАМІНЫ

# КУМА ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

Яніна ШМАТКО,
Зэльва

**Неяк каля помніка Ларысе Геніюш Сяргей Чыгрын прасіў зэльвенцаў падзяліцца ўспамінамі пра людзей, якія былі добра знаёмы з паэткай. Я не адразу зразумела, што гэта зварот і да мяне, бо я працавала ў адной школе з кумой Ларысы Антонаўны (ды і зараз часта сустракаюся з ёю) — Ірынай Станіславаўнай Тукальскай.**



Злева направа: Ірына Тукальская, Янка Геніюш, Ларыса Геніюш

## Настаўніца фізічнай культуры

Ірына Тукальская (у дзявоцтве Андрышак) нарадзілася ў Беластоку. У 1941 годзе ёй якраз быў час ісці ў школу, а тут — вайна. Бацьку немцы забралі на ўзвядзенне аднаго з бункераў для Гітлера, пасля заканчэння будаўніцтва якога ўсіх рабочых расстралялі. Калі б не дапамога родзічаў, невядома, ці выжыла б у ваенным ліхалецці немалая сям'я Станіслава Андрышака: жонка і чацвёра дзяцей…

Пасля вызвалення Беластока Ірынка пайшла ў школу. Вучылася вельмі старанна, асабліва любіла матэматыку. Настаўнікі праэкзаменавалі дзяўчынку і перавялі адразу ў 3-ці клас. Так за адзін год маленькае дзяўчо скончыла ажно тры класы!

Неўзабаве сям'я перабралася да родных маці на Бераставіччыну, а потым — у Гродна. Пасля заканчэння СШ №9 Гродна Ірына адразу паступіла ў Гродзенскі тэхнікум фізічнай культуры. Маленькая, зграбная, пластычная, надзвычай працалюбівая і адказная, дзяўчына без вялікіх цяжкасцей закончыла вучобу і атрымала накіраванне ў адзіную тады ў Зэльве сярэднюю школу. А ёй хацелася вучыцца далей. Паехала ў Мінск, паспяхова здала экзамены і з гэтай навіной як на крылах ляцела ў Зэльву.

Але ў РАНА яе радасць не падзялілі: катастрафічна не хапала спецыялістаў па фізічнай культуры. Упрасілі дзяўчыну крыху пачакаць з вучобай. І яна саступіла. А неўзабаве выйшла замуж за студэнта-завочніка. Так і засталася з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Вядома, увесь час займалася самаадукацыяй, ездзіла на курсы, так што ад калег з вышэйшай адукацыяй не адставала. 33 гады адпрацавала ў адной школе! Выгадавала нямала спартсменаў, настаўнікаў фізічнай культуры.

Лёс не надта шкадаваў Ірыну Станіславаўну. У 46 гадоў яна засталася ўдавой. Адна ажаніла сыноў, уладкоўвала іх быт, гадавала ўнукаў. Пакуль вырашаліся ў дзяцей жыллёвыя праблемы, сем'і абодвух сыноў былі пад яе апекай. 7 гадоў пражыла з сям'ёй старэйшага сына, 22 гады — малодшага. Радуецца, што нядаўна дачакалася праўнучку.

Пасля выхаду на пенсію Ірыну Станіславаўну запрасілі ў мясцовую бальніцу, адкуль і пасля сямі гадоў працы не хацелі адпускаць. Яно і зразумела: жанчына стала незаменным памочнікам медсястры. Яна праводзіла рэабілітацыйную гімнастыку і кропкавы масаж, шмат іншай штодзённай працы, наўпрост не звязанай з абавязкамі санітаркі.



Ірына Тукальская з праўнукам Геніюшаў Даніэлем каля хаты Геніюшаў у Зэльве

## Ларыса Геніюш — хросная маці

З сям'ёй Геніюшаў Ірына Станіславаўна пазнаёмілася дзякуючы мужу, які быў блізкім сваяком Івана Пятровіча. Бываць у гэтых інтэлігентных гасцінных людзей стала духоўнай патрэбай. Перабіраючы шматлікія фотаздымкі, звязаныя з Геніюшамі, жанчына кажа: «Вось глядзіце, як любіла Ларыса Антонаўна сустракаць гасцей. Жылі ж яны небагата, але гаспадыня была вельмі ашчаднай і вынаходлівай. Сёе-тое вырошчвала на сваім невялікім агародзе, перапрацоўвала яго дары і любіла частаваць далікатэсамі са слоікаў».

Пэўны час, як згадвае Ірына Станіслаўна, Ларысу Антонаўну запрашалі ў школы. Яна ведала шмат цікавага з гісторыі краю, звычаяў беларусаў. Яе каментарыі да вершаў успрымаліся з вялікай цікавасцю, бо думкі свае яна выказвала вобразна і пераканаўча.

Але зноў за хатай Геніюшаў пачалі наглядаць, размовы з наведвальнікамі праслухоўваліся. Ды і частае наведванне Ларысай Антонаўнай царквы выклікала незадаволенасць у мясцовай улады. І калі Тукальскія запрасілі Ларысу Антонаўну стаць хроснай маці іх сынам, давялося таіцца. А калі дапытвалі Ірыну Станіславаўну ў школе, ці хрысціла яна дзяцей, тая адказвала: «Спытайце пра гэта ў маёй свякрові. Яна праваслаўнай веры, а я каталічка, касцёл жа ў нас закрыты».

Да самай смерці клапацілася Ларыса Антонаўна пра сваіх хрэснікаў. Калі ажаніўся старэйшы, Пётр, Ларыса Антонаўна, вельмі хворая і слабая, прымала самы актыўны ўдзел у падрыхтоўцы да вяселля. Жыла паэтка непадалёку ад сталовай, дзе мелася адбыцца вяселле, таму многае рыхтавалася ў яе хаце і з яе непасрэдным удзелам. А яшчэ Ларыса Антонаўна падрыхтавала вершаванае віншаванне:

*Сям'я — гэта шчасце і лад,*
*і бяспечнасць,*
*Прыстанішча вернае ў нашым*
*жыцці.*
*Ў нас цэняцца розум, душа,*
*чалавечнасць,*
*Жадаю вам годна праз беды*
*прайсці.*
*Не радасці толькі, спакой*
*і бяспечнасць —*
*Доля прыносіць і боль, і цяжар,*
*І што б не лягло табе, сынку,*
*на плечы, —*
*Стрывай, бо сягоння ўжо*
*ты — Гаспадар!*
*Хай Танечка цэніць харошую маці,*
*Што сына свайго ёй у падарак дала.*
*Хай гаспадарыць, гатовіць,*
*а ў святы*
*Ветліва кліча нас ўсіх да стала!*
*Ў любові і еднасці нашая сіла,*
*У шчасці сямейным, ў павазе*
*людской.*
*Дык будзьце такімі, як продкі*
*вучылі,*
*Ў любові і згодзе жывіце з сабой!*

А ў адным з лістоў да малодшага хрэсніка Уладзіміра, калі той служыў у войску, паэтка пісала: «Хлопчык мой родны, жадаю табе цікавай і добрай службы, шчырых сяброў. Ад шчырага сэрца жадаю спакою і міру на свеце, каб ніколі нічога не пагражала ні вам, салдацікам, ні нам. А пакуль — шчаслівай службы, мой хлопчык. Мама твая бывае ў мяне, старэнькай, амаль кожны дзень…»

Віншуючы дарагую куму з 1980-м годам, Ларыса Антонаўна згадвае, якім цяжкім быў адыходзячы год для радні і не самой (у 1979-м памерлі спадарожнікі жыцця абедзвюх жанчын), спадзяецца на лепшае, цешыцца, што і яна не забытая раднёй мужа:

*З Новым годам, каханыя родзічы,*
*Што сяння на зямлю ступіў,*
*Цяжкім быў для нас год адыходзячы,*
*Дай Бог гэты шчаслівейшым быў!*
*Паклон нізкі харошаму роду,*
*Сяння ў кожнага ноша свая,*
*Ўсё ж лягчэй нясці боль і нягоды,*
*Калі дружная разам сям'я!*
*Будзем жыць, як дзяды нас вучылі,*
*Ў шчырай працы, ў сяброўстве з*
*людзьмі,*
*Тут вякі ужо нашы, магілы,*
*Мы па бацькаўскай ходзім зямлі!*
*Пагляд на цэркваччку белую*
*І на двор геніюшоўскі (у арыгінале*
*геніушаўскі) з вакна,*
*І раблюся зноў сільнаю, смелаю,*
*Адчуваю, што я не адна.*
*З Новым годам, каханыя родзічы,*
*Майго мілага мужа сям'я,*
*У час радасці, гора ці немачы*
*Буду разам з усімі і я!*

## З'яднала хата Геніюшаў

Дзякуючы сваяцкім сувязям з Геніюшамі, жыццё Ірыны Станіславаўны ўзбагацілася знаёмствам з многімі таленавітымі людзьмі. Яна вельмі даражыць успамінамі пра тых, з кім з'яднала гасцінная хата на былой Царкоўнай вуліцы (цяпер Савецкай).

Вось як расказвае яна пра першае знаёмства з Уладзімірам Караткевічам: «Прыйшла я неяк да Ларысы Антонаўны, а на ганку сядзіць малады мужчына, з якім ажыўлена размаўляе Ларыса Антонаўна. Вітаюся, а яна кажа: «Вось, Ірачка, пазнаёмся. Гэта наш вельмі таленавіты пісьменнік Уладзімір Караткевіч. Раю сачыць за яго творамі». Уладзімір Сямёнавіч у адказ на гэтыя словы ўстаў і, схіліўшы галаву, пацалаваў мне руку, чым вельмі збянтэжыў. Потым мы сустракаліся яшчэ, калі імя Караткевіча стала вядома ва ўсёй Беларусі, але першая сустрэча найбольш урэзалася ў памяць».

Вельмі памятны была сустрэча з Нінай Мацяш, па-мацярынску апякуемай Ларысай Антонаўнай.

«Ужо не памятаю, на чыім дні нараджэнні, — працягвае Ірына Станіславаўна, — адзіны раз бачылася з Зоськай Верас. Мне потым пра яе многа расказвала Ларыса Антонаўна. А вось з Алесем Белакозам, Аляксеем Пяткевічам, Данутай Бічэль бачыліся даволі часта. Пяткевіч нават быў у мяне дома, калі наведваў Зэльву».

Калі Ларыса Антонаўна падрыхтавала да друку зборнік «На чабары настоена», Ірына Станіславаўна адвозіла рукапіс у Гродна да Дануты Бічэль, з якой было дамоўлена аб напісанні прадмовы. Ларыса Антонаўна вельмі хвалявалася. Ёй здавалася, што яе «кнігаsuccessfully» абавязкова затрымаюць, адбяруць рукапіс, і загіне праца яе душы і рук. Ірына Станіславаўна супакойвала: «Не хвалюйцеся, ніхто мяне не зачэпіць. А зачэпіць — у крыўду сябе не дам. Вы мяне ведаеце, я ж — гімнастка».

Ужо пасля смерці Ларысы Антонаўны лёс звёў Ірыну Станіславаўну яшчэ з адным паклоннікам таленту славутай кумы — Галінай Дзягілевай. Пасля спектакля «Белы сон», падрыхтаванага актрысай, Ірына Станіславаўна вельмі дзякавала за цудоўнае ўвасабленне вобраза паэткі на сцэне. Так завязалася знаёмства. У адной з паштовак Дзягілева пісала: «…Зэльва для мяне вельмі дарагі куток, і людзі родныя. Перадайце, калі ласка, ад мяне прывітанне ўсім, каму дарагая наша Ларыса Антонаўна, якая нас з'яднала».

## Лісты і каментарыі

Яшчэ і яшчэ раз праглядаючы эпісталярныя зборнікі «Каб вы ведалі» і «Лісты з Зэльвы», любоўна падрыхтаваныя Міхасём Скоблам, перачытваю радкі, прысвечаныя Ірыне Станіславаўне і яе дзецям. Пытаюся, ці памятае яна пра тыя падзеі, што ўзгадваюцца ў лістах Ларысы Антонаўны. «Чытала ўсе кнігі незабыўнай кумы. Калі сустракала ў лістах сваё імя, старалася ўзнавіць у памяці тыя дні і падзеі, пра якія яна піша. І, ведаеце, не ўсё помніцца. Калі б гадоў 10 таму адбылася наша з вамі гутарка, то, напэўна, больш падзей было ў памяці. А так, што зробіш, 80 гадкоў нядаўна стукнула». У свае восем дзясяткаў Ірына Станіславаўна па-ранейшаму сябруе з фізкультурай, кожны дзень на веласіпедзе ездзіць у касцёл.

Гартаючы «Лісты з Зэльвы», Ірына Станіславаўна спыняе позірк на лісце кумы да Надзеі Васільеўны Караткевіч. «Вось глядзіце, Ларыса Антонаўна піша маме Уладзіміра Сямёнавіча: «Тукальская вельмі задаволена з



Сын і нявестка Геніюшаў

чаравічкаў. Не сцешыцца з іх». А я ніяк не прыпомню, пра што ідзе размова. Вось пра матэрыял на сукенку і спадніцу, падараваны мне Ларысай Антонаўнай, памятаю добра. Ёй з Канады прыслалі пасылку, і яна, шчодрая душа, падарыла мне і яшчэ некаторым сваячкам па некалькі метраў матэрыялу. Але пра гэта Ларыса Антонаўна чамусьці не піша».

А мне вельмі запомніўся ліст да Дануты Бічэль ад 8 снежня 1979 года, у якім паэтка пісала: «Мяне зноў «адкінула». Вечарам было вельмі дрэнна, …і я ледзь не плакала… Тады нехта пастукаўся. Гэта была Іра. Яна заходзіла вечарам з працы і надта спалохалася майго выгляду. Гэта ёй не дало спаць…»

Ірына Станіславаўна доўга сядзіць моўчкі, а потым уздыхае: «Гэта ж 1979 год. Цяжкі і для яе, і для мяне. У пачатку года яна пахавала свайго мужа, а ў верасні — я свайго… Я часта начавала ў Ларысы Антонаўны, каб разважыць яе, скрасіць адзіноту. У мяне і сапраўды было нейкае прадчуванне, калі ёй асабліва кепска. Вось і ў той вечар, пра які згадвае кума, я пасля школы зайшла да яе, убачыла, як ёй дрэнна, і не магла спакойна заснуць. Вось і прыбегла сярод ночы. Яна вельмі была ўдзячна мне. Размаўлялі да раніцы пра ўсё: і пра лагер, і пра дарагіх спадарожнікаў, і пра дзяцей. Пасля такіх размоў і слёзы, што аблягчаюць душу, успамінаюцца з ціхай радасцю».

Знаходзім яшчэ адзін ліст паэткі, дзе яна гаворыць пра работу Ірыны Станіславаўны і яе хваробу: «Іра ляжыць у бальніцы. Яна — настаўніца гімнастыкі, і лыжы даканалі ёй сэрца». (З пісьма Міколу Канашу ад 6 лютага 1982 г.) Ірына Станіславаўна згодна ківае галавой, але думае пра іншы выпадак: «У 1982 годзе я ляжала з традыцыйнай для зімовага часу прастудай. А вось як яна выратоўвала мяне раней, калі мне спатрэбілася тэрміновая аперацыя, бачыце, нідзе не піша».

Я прапаную: «А вы раскажыце самі». І жанчына ўспамінае: «Ларыса Антонаўна першай забіла трывогу. Яна пазваніла ў Мінск да сваячкі, звязалася са знаёмым доктарам у Баранавічах, сама села са мной у машыну і паехала ў няблізкую дарогу. Не ведаю, дзе там яна начавала, але першай, каго ўбачыла, ачуняўшы пасля аперацыі, была Ларыса Антонаўна. Вялікай душы была яна чалавек».

## Развітанне

Калі Ларысу Антонаўну адвезлі ў Гродзенскую абласную бальніцу, Ірына Станіславаўна часта наведвала яе. Памятае, як віншавала змучаную і слабую пасля аперацыі паэтку з 8 Сакавіка. Прывезла з Зэльвы ёй першыя вясновыя кветкі, бо ведала, як любіла іх Ларыса Антонаўна.

У сувязі з кветкамі хочацца прывесці ўспаміны яшчэ адной нашай настаўніцы — Клаўдзіі Іванаўны Санукевіч. Яна якраз вучылася ў Гродзенскім пединстытуце, калі туды была запрошана Ларыса Антонаўна. Дык вось, аднаго студэнта адправілі купіць кветкі для госці. Выбег хлопец на вуліцу, а насустрач яму жанчына з букетам. Давай прасіць незнаёмку, каб прадала яму кветкі, бо вельмі ж тэрмінова трэба для добрага чалавека. Жанчына міла ўсміхнулася і працягнула юнаку букет… Потым аказалася, што гэта і была Ларыса Геніюш.

На час веснавых канікул Ірына Станіславаўна ўзяла адгулы і цэлы тыдзень даглядала хворую. Болі былі настолькі невыноснымі, што Ларысе Антонаўне не заўсёды ўдавалася стрымлівацца. Тады выгаворвала куме, што не так павярнула, не так пасадзіла, не так банкі паставіла, дрэнна пераапранула ці пераслала пасцель… А пасля ўколаў, калі боль крыху суцешваўся, прасіла прабачэння.

Назаўсёды ў памяці засталіся апошнія словы Ларысы Антонаўны, калі настаўніца ад'язджала на працу, а жыць вялікай змагарцы за Беларусь аставаўся ўсяго тыдзень: «Перадай зэльвенскім уладам, што я ніколі не была ворагам і ўжо не буду. Хай спяць спакойна».

Памерла Ларыса Антонаўна пры жонцы паэта Юркі Голуба — Кацярыне.

Потым было пахаванне, на якое не пабаялася прыйсці ледзь не ўся Зэльва. Праца над помнікам, ва ўстаноўцы якога дапамагалі і хрэснікі паэткі — Пётр і Уладзімір Тукальскія. А Ірына Станіславаўна, наведваючы дарагія магілы, ніколі не мінае і магілы сваёй дарагой кумы.

## Сувязі не абрываюцца

Пасля смерці Ларысы Антонаўны прайшло 30 гадоў, але сувязі Ірыны Станіславаўны з нашчадкамі паэткі не абрываюцца. У Беластоку жывуць нявестка і ўнукі Ларысы Антонаўны. Раней, Ірына Станіславаўна наведвала іх, зараз у асноўным перапісваюцца-перазвоньваюцца.

Унукі Міхась і Алесь падарылі Ларысе Антонаўне ажно 9 праўнукаў, прытым пяцёра — хлопцы. Значыць, род Геніюшаў на зямлі будзе працягвацца.

Зрэдку нехта з унукаў-праўнукаў наведвае Зэльву. На 100-годдзе Ларысы Антонаўны прыязджаў унук Міхась, а ў мінулым годзе з унукам Даніэлем была нявестка Валянціна. Жылі яны ў Тукальскай і мелі магчымасць наведаць і магілы, і пабываць у былой геніюшаўскай хаце.

Беражліва захоўвае Ірына Станіславаўна ўсё, што звязана з роднымі і дарагімі людзьмі: кнігі, пісьмы, вершы, фотаздымкі. Вось і нядаўна бібліятэка яе папоўнілася новай кнігай Ларысы Антонаўны, перададзенай нявесткай. Гэта — «Ptaki bez gniazd» з беларускамоўным дыскам. Выданне здзейснена ў Беластоку ў рамках праекту «Памяць па-над часам і межамі». Дай Бог доўгага і шчаслівага жыцця нашчадкам і ўсім, хто ахвяруе свой талент на даследаванне жыцця і творчасці незвычайнай жанчыны — Ларысы Антонаўны Геніюш!

РАЗМОВА

# Святлана Вранова: «КАБ ВЫВУЧЫЦЬ МОВУ, ЧЫТАЮ НА ЁЙ БІБЛІЮ»

**Рыхтуецца да друку чэшскі пераклад кнігі «Люблю Беларусь» Паўла Севярынца. Раней у Чэхіі выйшаў пераклад кнігі Станіслава Акінчыца «Залаты век Беларусі». Аўтарка перакладаў Святлана Вранова распавяла журналістцы НЧ Таццяне Шапуцька, чаму перакладаць Севярынца складана і колькі беларусаў пачалі размаўляць на роднай мове пасля сустрэчы з ёй.**




***— Колькі часу заняў пераклад кнігі Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»?***

— Прыкладна паўгода — з сакавіка па верасень. Цяпер мы разам з пражскай беларускай суполкай «Пагоня» намагаемся надрукаваць кнігу. Яе выданне — мая мара. Нядаўна мы прадставілі заяўкі на атрыманне гранту, але ці ўхваляць, даведаемся толькі ў лютым. З «Залатым векам Беларусі» было прасцей. Гэта маленькая кніжка, на яе спатрэбілася не так і шмат, таму мы змаглі яе выдаць уласнымі сіламі. Яна выйшла накладам 300 асобнікаў. «Залаты век Беларусі» мы выдалі з нагоды шасцісотых угодак прыбыцця чэха Ераніма Пражскага ў ВКЛ, які прынёс у Княства ідэі Рэфармацыі. Нашы беларускія сябры святкавалі гэтую дату, і мы вырашылі далучыцца. У чэрвені арганізавалі гістарычную вандроўку для групы беларускіх хрысціянаў: паказалі ім цікавыя месцы, звязаныя з чэшскай Рэфармацыяй. Завяршылі візіт супольнай канферэнцыяй, прысвечанай чэшска-беларускім адносінам у XV — XVII ст. На гэтай канферэнцыі прачытаў лекцыі і аўтар «Залатога веку», мой добры сябра Станіслаў Акінчыц. Кніг ужо засталося няшмат — паступова прадаем на розных канферэнцыях, хрысціянскіх мерапрыемствах ды ў цэрквах.

***— Што далося найцяжэй падчас працы над перакладамі?***

— Калі я пачала перакладаць «Залаты век Беларусі», яшчэ беларускай мовы добра не ведала. Прачытала кнігу — усё было зразумела. Пасля мае чэшскія сябры, пазнаёміўшыся з аўтарам кнігі, папрасілі перакласці кнігу на чэшскую мову. Я пагадзілася, але хутка адчула, што разумець сэнс і перакладаць кожнае слова — гэта вялікая розніца! У мяне не было слоўнікаў (чэшска-беларускі ўвогуле не існуе, пазней удалося набыць хоць польска-беларускі), нават Google Translate тады яшчэ беларускай «не ведаў». Давялося шмат карыстацца расійскім перакладам кнігі. Але толькі карыстацца, перакладала я з арыгіналу. Праца над тэкстам заняла блізу шасці месяцаў, але яшчэ цэлы год я змагалася з дзясяткамі імёнаў — як іх правільна напісаць па-чэшску… Гэта было найскладана.

З перакладам кнігі «Люблю Беларусь» ужо было інакш. Тады я мову ведала дастаткова добра, але Павал Севярынец карыстаецца такім багатым слоўнікавым запасам, ужывае столькі метафарычных выразаў, прыдумляе словы, у яго настолькі спецыфічны і непадобны да іншых стыль, што давялося пачынаць зноўку з самага пачатку. Аднак, Паўлавы стыль пісання мне вельмі блізкі. Я заўсёды любіла «гуляцца са словамі», так што гэты пераклад — для мяне быў узнагародай! Складанасці, вядома, былі. Яны збольшага звязаныя з намёкамі, утоенымі ў тэксце, якія беларус разумее, а замежнік — не. На шчасце, у мяне было цэлае войска беларускіх кансультантаў, якія дапамагалі мне зразумець цяжкія фразы і словы...

***— Вы вывучылі беларускую мову самастойна?***

— Так, беларускую мову я вывучыла сама, як і раней польскую. Я маю як дар Божы і спадчыну ад сваёй маці — талент да славянскіх моваў. Расейскую ведаю з дзяцінства, польскую я вывучыла ў 2002-м на працягу аднаго года. Беларускую я вывучала крыху даўжэй. Мой метад вельмі просты — чытаю Біблію на мове, якую хачу вывучыць, слухаю праслаўленні (спевы ў хрысціянскай царкве — Т.Ш)… З беларускай мовай было лягчэй, дзякуючы польскай, я ад самога пачатку амаль усё разумела. Складаней было з граматыкай. Я вывучаю яе толькі візуальна: ніколі не сяджу ў падручніках, а проста чытаю — праз нейкі час пачынаю разумець правілы. Да таго ж у мяне шмат беларускіх сяброў. Я з імі лістуюся — гэта прымушае мяне імкнуцца пісаць правільна. Дапамагае Google Translate, інтэрнэт, вельмі люблю белсатаўскі «Моўнік», захапілася цудоўнай кніжкай «Дзіцячая за-Мова» Глеба Лабадзенкі, карыстаюся тлумачальным слоўнікам — гэта ўсё дапамагае. Хачу паказаць беларусам, што вывучыць мову нескладана. Калі чэшка без усякай базы, атрыманай у школе, можа вывучыць мову толькі з дапамогай агульнадаступных рэсурсаў, то кожны беларус здолее таксама гэта зрабіць.

Па адукацыя я — заолаг, усё жыццё займаюся арніталогіяй, дваццаць год працавала ў ахове прыроды. Потым мяне «ў межах рэарганізацыі» звольнілі, і не ведала, што рабіць. Мне заўсёды падабалася перакладаць. Таму здала міжнародныя моўныя экзамены па рускай ды польскай мове і пачала працаваць у якасці перакладчыка.

***— Ці былі Вы калі-небудзь у Беларусі?***

— Я была ў Беларусі двойчы. Вядома, я не наіўная, не нашу ружовыя акуляры, добра разумею, якая ў Беларусі сітуацыя. Але я закахалася ў вашую краіну звышнатуральным каханнем. Вельмі сумую, вельмі жадаю вярнуцца! Пражскія беларусы не хацелі паверыць, што ў мяне няма беларускіх каранёў. Ведаю ўжо прынамсі чатырох беларусаў, якія пасля сустрэчы са мной пачалі карыстацца беларускай мовай! Гэта мяне радуе, у гэтым я бачу свае пакліканне.

***— У адным са сваіх артыкулаў Вы выказалі шкадаванне, што нават самыя прагрэсіўныя беларусы гавораць на «засмечанай» беларускай мове…***

— Русізмы, паланізмы, англіцызмы ды моладзевы слэнг былі, ёсць і, напэўна, заўсёды будуць. У чэшскай мове яны таксама ёсць. Мы ж жывем сярод іншых народаў, і іх уплывы на мову цалкам натуральныя. Аднак чысціню літаратурнай мовы, безумоўна, трэба дапільноўваць! Літаратурную мову трэба выкладаць у школах і карыстацца ёй у медыях. Калі літаратурная мова гучыць у школах, і людзі сустракаюць яе на радыё, тэлебачанні, у газетах, тады русізмы ці паланізмы не ўяўляюць праблемы. Але ў сітуацыі, калі такога асяроддзя чыстай мовы няма, на мой погляд, трэба, каб гэтае чысціні трымаліся тыя, хто мову выдатна ведае, хто лічыць яе нацыянальнай каштоўнасцю.

▸ МАСТАК

# ВАНДРОЎКА НА РАДЗІМУ ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА

Кастусь ШЫТАЛЬ

**Даўно планаваў выбрацца на радзіму дзядзькі Язэпа — легендарнага мастака Язэпа Драздовіча. Разглядаў у альбомах ягоныя маляваныя дываны, малюнкі і карціны, чытаў ягоны дзённік, адзначаў шляхі ягоных вандровак на картах 1930-х гадоў.**



Магіла Язэпа Драздовіча

Юбілей мастака падштурхнуў да дзеяння. Нарадзіўся Язэп Драздовіч 13 кастрычніка 1888 года ў засценку Пунькі, на ўскрайку Галубіцкай пушчы, у Глыбоцкім раёне.

Каб дабрацца ў Пунькі, сядаю на цягнік і еду да станцыі Падсвілле. Мястэчка Падсвілле дужа ладнае. Разлеглася на беразе маляўнічага возера Алоізберг (па-мясцоваму Люзбэрак), у якое ўкліньваецца паўвостраў. Зграбныя домікі міжваеннага часу стаяць пры галоўнай вуліцы. Размешчанае пры чыгунцы і недалёка ад Галубіцкай пушчы, Падсвілле можа стаць адной з ключавых кропак у турыстычнай інфраструктуры Паазер'я.

Самы блізкі шлях у Пунькі ляжыць праз вёску Кішы. Адзіны тутэйшы помнік даўніны — Галодны магільнік — бачны проста з дарогі. На ўскрайку магільніка стаіць каменны крыж — падобны на тыя, што Драздовіч маляваў на карціне «Пагоня Ярылы».

Некалькі яблынь пры дарозе — апошні знак па вёсцы Праабражэнка. Перадолы вітаюць рускамоўным указальнікам, на выездзе — «прэзідэнцкія домікі», вакол якіх ні платоў, ні барканы.

Парадны ўезд у вёску Ліпляні, дзе Драздовіч знайшоў свой апошні прыпынак, праходзіць міма руінаў калгасных пабудоў ды фермы, дзе вокны зацягнутыя плёнкай. За Ліплянамі з пагорка бачная Галубіцкая пушча — вялізны лес засцілае сабой далягляд: ён і наперадзе, і справа, і злева.

Тут лёгка зблытацца і заехаць у засценак з філасофскай назвай Вечнасць ці ў паселішча з рамантычным назовам Любава. Вяртаюся ў Ліпляні, каб спытаць дарогу. «Паедзеце проста, у лесе канава і шлагбаум, там направа — кажа бабулька. — А як вы пазнаеце тыя Пунькі, там ужо нічога няма!»

Краязнаўца Уладзімір Скрабатун тлумачыў мне, што злева пры лясной дарозе будзе стаяць крыж, а справа метраў за трыста расце высокая ліпа. Падыходжу да крыжа, бачу ліпу. Гэта Пунькі. На сярэдзіне крыжа прыбіта металічнае распяцце, а пад ім растуць кветкі. Побач — яблыня, пад ёй ляжаць на зямлі смачныя антонаўкі.



Скульптура Геніка Лойкі

Пустку на месцы Пунек займае някошаная, пасохлая трава. Сцежкі ў траве: людскія ці звярыныя? З хмызнякоў тырчыць кавалак страхі, крыты дранкай: развалiны нейкага хлява. Старыя яблыні. Сям-там павырасталі маладыя бярозкі і сосны. Раскіданае гняздо Драздовічаў.

Ліпа — высачэзная і дамінуе над усім гэтым запусценнем. Яна дужа старая — можа, яшчэ з часоў Рэчы Паспалітай расце тут. Колькідзясят крокаў управа — і натыкаюся на камяні. Калі меркаваць па апісанні Скрабатуна, гэта падмуркі дома, дзе і прыйшоў на свет Язэп Драздовіч. Яшчэ трохі прайсці — і натыкаюся на рэшткі склепа.

У 1930-х Драздовіч страціў крыніцы заробку і з'ехаў з Вільні. Адгэтуль і аж да смерці жыццё мастака ператварылася ў няспынную вандроўку. Замалёўваў старыя замкі, гарадзішчы, прадметы сялянскай архітэктуры і побыту. Размалёўваў сялянам дываны, прыносячы трохі эстэтыкі пад стрэхі вясковых хат.

Зарабляў мала. У сваім дзённіку мастак падводзіць рахункі за 1934 год: 81 злоты чыстага прыбытку за дзевяць месяцаў працы. Калі б наймаўся на сельскагаспадарчыя працы, зарабіў бы такую суму за сорак дзён. Але мастак абраў жабрацкае жыццё, абы застацца мастаком.

Па дзённіках можна прасачыць яго шляхі — па тэрыторыі сучасных Глыбоцкага, Шаркаўскага і Мёрскага раёнаў. А спачыў на магільніку ў Ліплянях — усяго два кіламетры нацянькі ад Пунек.

Язэп Драздовіч для Беларусі — постаць, параўнальная з Мікалоюсам Чурлёнісам для Літвы. Але ў Літве свайго нацыянальнага генія шануюць, яго мастацтвам ганарацца, яго творчасць вывучаюць і папулярызуюць, створаны музеі. Наш нацыянальны геній — Язэп Драздовіч — вернуты з нябыту выключна высілкамі грамадства.

***

У дзень юбілею каля Ліплянскага магільніка я пабачыў каля паўдзясятка машын. Інтэлігенцыя з Падсвілля, Глыбокага, Шаркоўшчыны сабралася, каб ушанаваць памяць Драздовіча. З больш далёкіх гасцей — скульптар Генік Лойка з Мінска і мастачка Святлана Баранкоўская з Віцебска.

На ўскрайку могілак стаялі дзве жанчыны і малая дзяўчынка. «Драздовіча шукаеце? Ён тут». Разгаварыліся. Старэйшая жанчына, Аліна Станіславаўна Тышко, добра памятае дзядзьку Язэпа. У 1954-м, калі мастак дажываў апошнія свае дні, спадарыня Аліна была 15-гадовай дзеўкай.

— Хадзіў, карцінкі маляваў. Намаляваў мяне, дзвюх сясцёр, суседку… У блакноціку за пяць капеек. Згубілі… Не захавалі… Каб гэта знанне… Выйдзе з хаты, паглядзіць на зоркі… Казаў: мяне яшчэ ўспомняць, як у космас паляцяць… У грыбы хадзіў з ляскаю, на якой выразаны чалавек. Бедны быў… Намалюе, дык яму заплоцяць, пакормяць. Хадзіў па ўсім свеце, у каго маляваў, у таго і жыў, і еў, — успамінае Аліна Станіславаўна.

Калісьці Язэпу Драздовічу давялося прайсці шлях з Галубіцкай пушчы да Вільні, каб усвядоміць сябе беларусам, пазнаць гісторыю і сімвалы свайго народа, каб намаляваць вяршыня на кані на славутай карціне «Пагоня Ярылы». Цяпер нацыянальныя сімвалы шануюць у родных мясцінах Драздовіча. «Пагоня» ўпрыгожвае сядзібу Мар'яна Місевіча ў вёсцы Перадолы. Над хатай і зімой, і летам лунае бел-чырвона-белы сцяг.

Сядзіба Місевіча стала альтэрнатыўным Домам культуры. Сёлета ў ліпені тут ладзіўся мастацкі пленэр, прымеркаваны да 125-годдзя Драздовіча. На сценах хаты — стэнды з фотаздымкамі, карціны. Кніжная паліца з творамі беларускіх класікаў і сучасных недзяржаўных выданнямі. Мясцовыя ўлады дадалі да збораў унікальны экспанат: замаляваны невядомымі герб «Пагоня», які вісеў на балконе кватэры Місевіча ў Падсвіллі.

У хаце спадара Мар'яна сабраліся людзі, якія прыехалі на ўшанаванне памяці Драздовіча. Паглядзелі дакументальны фільм, зняты падчас першага Драздовіцкага пленэра, які праходзіў у гэтых мясцінах 1996 годзе. На экране ноўтбука прамаўляе Міхась Райчонак, заснавальнік культурна-асветніцкага цэнтра імя Язэпа Драздовіча. Гэта ўжо гісторыя. Міхась памёр у 25-гадовым узросце. Пахаваны на могілках у Германавічах, недалёка ад магілы Юзэфы Драздовіч, маці Язэпа.

Ада Райчонак, маці Міхася і старшыня цэнтра імя Драздовіча, пералічвае імёны мастакоў-удзельнікаў першага Драздовіцкага пленэра, якія пайшлі з жыцця: Яўген Кулік, Яўген Шатохін, Уладзімір Раманоўскі, Сяржук Цімохаў, Уладзімір Сулкоўскі, Віктар Маркавец. «Давайце выкладзем каля магілы Язэпа Драздовіча камяні з надпісамі тых, якіх шукальнікаў, якіх няма ўжо на свеце», — прапанавала Ада Эльдэўна.

Генік Лойка прывёз паказаць скульптуру, створаную ў выніку разважанняў над касмічнымі карцінамі Драздовіча. Маленькі хлопчык, які сядзіць і пільна ўглядаецца ў неба, а рукі трымае на зямлі, нібы занатоўвае штосьці, прачытанае на зорках. «Ад неба — зямлі» — называецца твор. Малы Драздовіч? «Гэта не Драздовіч, але менавіта ён натхніў мяне на стварэнне гэтай скульптуры», — удакладняе Лойка.

Генік Лойка марыць усталяваць скульптуру ў Пуньках. Зараз, калі маладыя пушчанскія дрэвы паглынаюць радзіму мастака, гэта зрабіць нерэальна. Але калі б давесці Пунькі да ладу, адрамантаваць дарогу, калі б туды сталі ездзіць турысты…

Турыстычны патэнцыял Галубіцкай пушчы вялікі. Яна славутая не толькі тым, што тут нарадзіўся Драздовіч. Маляўнічыя краявіды, лясы з грыбамі і ягадамі, азёры з рыбай… У Падсвіллі можна было б знайсці памяшканне пад карцінную галерэю — выстаўляць там працы маладых мастакоў, паказаць нарэшце землякам малюнкі з альбома Драздовіча «Галубіцкая пушча», якія пакуль што знаходзяцца ў фондах бібліятэкі Акадэміі навук.

Уже відавочна, што мастак і філосаф Язэп Драздовіча — фігура агульнанацыянальнага, калі не ўсясветнага маштабу. Бачыцца неабходнай дзяржаўная праграма вяртання яго імя і спадчыны ў сучаснасць. І зусім не фантастычнай уяўляецца паток наведвальнікаў у музей-галерэю твораў Язэпа Драздовіча ў Мінску, у адноўлены дамок-музей, дзе ён нарадзіўся, турыстычныя маршруты па слядах яго вандровак…

***P.S.*** Азнаёміцца з творчасцю Язэпа Драздовіча можна на сайце drazdovich.by. Стваральнікі сайта сабралі выявы карцін, малюнкаў, маляваных дываноў, а таксама артыкулы і фільмы пра Драздовіча.

У гісторыка-этнаграфічным музеі Глыбокага (вул. Энгельса, 24) да снежня працуе выстава твораў Язэпа Драздовіча, сабраных з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея, Германавіцкага музея народнай культуры і быту, Заслаўскага музея-запаведніка.



Пунькі. Язэп Драздовіч, 1922

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет».
г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1442

Падпісана да друку 22.11.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.